## *Прывітанне, сябры!*

*Зіма такая непрадказальная: снежныя марозныя дні змяняюцца амаль вясновай адлігай, і невядома яшчэ, што нам падрыхтаваў люты ў гэтым годзе. Адно мы ведаем дакладна: у новым нумары цёпла і ўтульна, незалежна ад надвор'я за вакном!*

*Давайце пройдземся па шышачнай сцежцы, зазірнём у госці да вядомага ілюстратара, знойдзем падснежнікі, адкрыем для сябе цікавыя кнігі, даведаемся новае, творчае, натхняльнае...*

*Дарагія чытачы, гэта наша першая сустрэча ў новым годзе. Мы поўныя планаў, ідэй і надзей дзякуючы вам, вашым водгукам і лістам. Няхай пазітыўны і рашучы настрой не пакідае і вас! Мы верым у тое, што поспех і ўдача прыходзяць да таго, хто імкнецца да гэтага і займаецца любімай справай.*

***Традыцыйнае дзякуй усім, хто ўдзельнічаў у стварэнні нумара!***

*Ваша каманда ALOVAK*

# каманда ALOVAK

## СТВАРАЛЬНІКІ ЧАСОПІСА:

Ірына БЕЛЬСКАЯ



Кацярына БУТО



## РЭДАКТАРЫ:

Надзея ЗІМІРАВА



Вольга БАРЫСЕНКА



Вераніка УЛЬЯНАВА



## НАД НУМАРАМ ПРАЦАВАЛІ:

Ірына АГЕЙЧЫК
*аўтар*



Вікторыя АНЖЭ
*аўтар*



Юлія БАГДАНЧЫК
*аўтар*



Яна БУНЦЭВІЧ
*ілюстратар*



Дар'я УЛАСАВА
*ілюстратар*



Наста ГЛУШКО
*аўтар*



Таццяна ГРОСЛЕР
*перакладчык*



Алена ДЗЯДЗЮЛЬ
*аўтар*



Яна ЯФРЭМАВА
*фатограф*



Таня КАПІТОНАВА
*фатограф*



Таццяна КЕСКЕВІЧ
*аўтар*



Яна МЕЛЬКО
*аўтар*



Марыя МАРАЗЕВІЧ
*аўтар*



Юля ПРАШКОВІЧ
*аўтар*



Марыя СОНГАЛЬ
*аўтар, фатограф*



Ксенія САСНІНА
*аўтар*



Настасся ЦІШКАВЕЦ
*аўтар*



Таццяна ХЛАПКОВА
*аўтар*



Кацярына ЧАРНЯЎСКАЯ
*аўтар*



Хочаце прымаць удзел у стварэнні часопіса ALOVAK?
Раскажыце нам пра сябе на alovakmag@gmail.com

Рэклама ў часопісе ALOVAK

Мы разгледзім вашы заяўкі на alovakmag@gmail.com


64


46


105
Щегол
Белая голубка Кордовы
Завтрак у Sotheby's


102

# шышкі

*Шчыра прызнацца, мы крыху баяліся прызначаць прадметам нумара шышку. Але ў працэсе працы мы сапраўды натхніліся гэтым прыродным аб'ектам і зразумелі, што нашу любоў падзяляе шмат людзей. Чаго толькі не робяць з шышак: кармушкі для птушак, кошыкі, вазы і нават варэнне! Спадзяемся, вы таксама зацікавіцеся гэтым даступным і фактурным матэрыялам і ў гэтым вам дапаможа падборка арыгінальных ідэй ад таленавітых мастакоў і дызайнераў.*






# БРОШКА

Ідэя ад Lisa Serge:
"Летась мне захацелася стварыць нешта незвычайнае, з'явілася ідэя зрабіць брошку. Для гэтага я адпіліла ў поўнасцю раскрытай шышкі "задок"; з адваротнага боку прымацавала пяро і некалькі нітачак з упрыгажэннем; закрыла ўсё гэта кавалачкам фетру. Пры дапамозе клей-пісталета прымацавала нарыхтоўку да спецыяльнай асновы для брошак (яе можна набыць у магазінах для творчасці і шыцця)".

Фота: Lisa Serge (instagram.com/manka_v_kruzhevah)




# ПАШТОЎКА

Паштоўку зрабіла беларускі майстар Лізавета Кулікоўская:
“Для асновы спатрэбяцца кардон фармату А4 і нажніцы. Кардон трэба браць шчыльны, каб ён не гнуўся і не камячыўся пад цяжарам шышак і іншых матэрыялаў. Для таго каб зрабіць адну паштоўку, спатрэбіцца палова аркуша, але можна абраць і меншы памер. Далей абіраем, якую менавіта паштоўку мы хочам зрабіць: адзіночную ці падвойную. Каб зрабіць роўны згін, лепей выкарыстоўваць металічную лінейку. Далей малюем надпісы. Напрыканцы клеім дэталі паштоўкі: шышкі, стужачкі і г.д. Па такім жа прынцыпе можна зрабіць і магніцік. Для гэтага дадаткова спатрэбіцца магнітная стужка”.







Фота: Кацярына Буто

**Карысная інфармацыя:**

Лізавета Кулікоўская, дызайнер

vk.com/breathofhands
instagram.com/breath_of_hands




# ВАЗОНЧЫК

Ідэя от Lisa Serge:
“Яшчэ я дэкарую пры дапамозе шышак папулярныя зараз слоічкі MasonJar. Атрымліваюцца ўнікальныя ў сваім родзе вазончыкі з шышкамі”.

Фота: Lisa Serge



# Афармленне падарункаў

Ідэя ад Lisa Serge:
«Часцей за ўсё я выкарыстоўваю шышкі ў афармленні падарункаў. Загортваю падарункі ў крафт-паперу і ўпрыгожваю іх пры дапамозе шышак. Часам для надання пэўнага колеру афарбоўваюць іх спрэем. Дарэчы, з дапамогай звычайнага адбельвальніку шышкі можна зрабіць вельмі светлымі, і ў такім стане вельмі лёгка надаць каляровыя адценні пры дапамозе фарбы».

Фота: Lisa Serge




# Завушніцы

Завушніцы з шышак зрабіла беларускі майстар Лізавета Кулікоўская:
"Я наўмысна збірала шышкі маленькага памеру, каб выкарыстоўваць іх ва ўпрыгажэннях. Трэба паспрабаваць падабраць шышкі так, каб яны як мага больш падыходзілі адна да адной па форме і колеры. Для вырабу завушніц я выкарыстоўваю альбо латунную фурнітуру, альбо фурнітуру срэбнага колеру. Акрамя таго вам спатрэбяцца: вяровачка для пяцелькі, шапачкі для пацерак і клей. Трэба зрабіць пяцельку з вяровачкі, працягнуць яе ў дзірачку шапачкі, змазаць кончык шышкі клеем і "надзець" шапачку з пяцелькай на шышку. Да пяцелькі прымацаваць швензы".

Фота: Кацярына Буто




# ПЯРСЦЁНАК

Пярсцёнак з шышкай зрабіла мастак Марыя Чарнаброўкіна:
“Гэты пярсцёнак зроблены з шышкі ўсім вядомай хвоі звычайнай (Pinussylvestris), якая распаўсюджана на тэрыторыі Еўропы і Азіі. Такія маленькія шышкі трэба шукаць на хвоях, што растуць на паўночных балотах. Суровая паўночная прырода стварае неабходныя ўмовы для нараджэння такіх цудоўных невялічкіх шышачак. Выкарыстаныя матэрыялы: шышка, эпаксідная смала, аснова для пярсцёнка”.

Фота: Марыя Чарнаброўкіна



**Карысная інфармацыя:**

Марыя Чарнаброўкіна,
мастак

vk.com/art_and_natural
instagram.com/taleart






# Кветкі з шышак

Форма раскрытай шышкі натхніла нас на стварэнне вось такіх незвычайных кветак, тым больш што стварыць іх вельмі проста!
Верхнюю частку шышкі акуратна адкруціце ці “адкусіце” абцугамі. Прыклейце падыходную галінку да “задка” шышкі, папярэдне адкруціўшы хвосцік. Клеіць лепш за ўсё сталярным клеем ці гарачым клеем з пісталета. Мы пакінулі шышкі ў натуральным выглядзе, пры жаданні іх можна пафарбаваць.

Фота: Кацярына Буто




# Гірлянда

Пры дапамозе шышак і іншых натуральных матэрыялаў (галінак, драўляных і керамічных пацерак) мы стварылі арыгінальную экагірлянду, якой можна ўпрыгожыць свой дом, лецішча ці проста дрэва на вуліцы. Прывяжыце да льнянога шпагату ўсе элементы па чарзе і не забудзьцеся зрабіць пяцельку, каб гірлянду можна было лёгка падвесіць.

Фота: Кацярына Буто



# БУКЕТЫ

Шышкі ў букеце? Чаму б і не! Расказвае фларыст Алеся Гаўрыш:
“Прыродныя матывы ў дэкоры – вельмі актуальная тэндэнцыя апошніх сезонаў. Гэта выдатнае рашэнне для вяселляў у эка-стылі, якія так імкліва набіраюць папулярнасць. У многіх зіма асацыюецца менавіта з шышкамі, з гэтым казачным, незвычайным і даўгавечным прыродным матэрыялам. Шышкі выкарыстоўваюцца не толькі ў дэкоры, але і ў кампазіцыях і букетах, як падарункавых, так і вясельных. Букет нявесты з шышак, мабыць, самы зімовы вясельны букет – ён не баіцца аніякага холаду. Шышкі могуць саліраваць у букеце, выступаючы асноўным матэрыялам для кампазіцыі, фактурным, па-сапраўднаму зімовым, але разам з гэтым утульным і цёплым. Або служыць акцэнтам, кантрасным дадаткам, грубаватым, але мілым і кранальным, які падкрэслівае прыгажосць і пяшчоту кветак. У любым выпадку яны прыцягнуць да сябе ўвагу і нікога не пакінуць абыякавым.
Спосабаў мацавання шышак у букеце існуе некалькі, часцей за ўсё іх мацуюць на жорсткі дрот, імітуючы прыродную форму росту. Дротам ахопліваецца ніжняя частка шышкі і зацягваецца. Дрот трэба выбіраць аптымальны па цвёрдасці для гэтага віду работ і папярэдне абмотваць спецыяльнай фларыстычнай тэйп-стужкай. Нават букеты толькі з шышак я збіраю ў гэтай тэхніцы, ніякіх дадатковых формаў не выкарыстоўваю. Часам можна сустрэць працы, дзе шышкі замацаваны ў іншым кірунку (бокам ці ўніз галавой) – гэта ўжо залежыць ад задумкі майстра і таго, якую фактуру ён хоча падкрэсліць і абыграць.

**Карысная інфармацыя:**
Алеся Гаўрыш, фларыст
vk.com/olesya.gavrish
instagram.com/olesya_gavrish

Фота: Аляксей Назараў, Вольга Луніна





# Ручкі для мэблі

Шышкі могуць з'яўляцца не толькі ўпрыгажэннем у дызайне і рукадзеллі, але і быць вельмі карыснымі ў вашым доме. Напрыклад, стаць ручкамі шафкі або камоды.

**Для гэтага вам спатрэбяцца:**
• прыдатныя па таўшчыні дзверцаў і памеру шышкі шрубы;
• клей для дрэва і металу;
• шыла і сасновыя шышкі. Вельмі важна падабраць шышку, яна павінна быць моцная і не раскрытая (пра збор і падрыхтоўку шышак да працы чытайце ў матэрыяле на стар. 30).
Перш за ўсё трэба вырашыць, якім бокам і пад якім вуглом вы замацуеце шышку на дзверцах, і зрабіць на ёй адзнаку маркерам або алоўкам. Тонкім шылам зрабіце ў шышцы адтуліну, яна павінна быць вузейшая, чым дыяметр шрубы. Для надзейнасці перад мацаваннем да дзверцаў абмакніце шрубу ў клей, пасля чаго надзейна прыкруціце шышку.

Мацаваць шышку да дзверцаў у якасці мэблевай ручкі можна па-рознаму: альбо да боку (як на фота), альбо да тарцовай часткі ("задка") шышкі.

Фота: Кацярына Буто






# ШЫШКІ Ў ВАЗОНЫ

Калі пакласці шышкі ў гаршчок з кветкамі, то расліна вам скажа дзякуй у засушлівы перыяд уключанага ацяплення ў кватэрах. Эфектыўнасць паліву вырасце ў разы: пласт шышак прапускае вільгаць без затрымак, а ў зямлі ўтрымлівае яе надзейна, не дазваляючы вадзе хутка выпарвацца. А як цікава выглядае такі вазон! Шышкі могуць быць любымі, важна толькі старанна памыць іх перад выкарыстаннем.

Фота: Кацярына Буто




# ШЫШКА-БРОШКА

Шышка натхняе і на тое, каб ствараць прадметы, якія да яе падобныя. “Шышку” можна звязаць, зрабіць з тканіны, фетру, паперы... з усяго, на што хопіць у вас фантазіі.

Майстар-клас па стварэнні шышкі з тасьмы шукайце ў раздзеле **“Карыснае”** на нашым сайце **alovakmag.by**

Мы эксперыментавалі ў стварэнні шышкі з фетру, вось якія вынікі ў нас атрымаліся. Паспрабуйце і вы!

Фота: Кацярына Бута





Зроблена: Таццяна Кескевіч

# Шышкаманія

**Цудоўная дзяўчына Ліза называе сябе “шышкаманкай” і збірае шышкі з усяго свету. Яе профіль у Instagram @manka_v_kruzhevah напоўнены выдатнымі фатаграфіямі з шышкамі ў галоўных ролях. Мы распыталі Лізу пра такое незвычайнае захапленне.**

Тэкст, фота: Lisa Serge

*Прызнацца шчыра, я ўсё жыццё любіла шышкі. Неяк яшчэ ў школьныя гады мне падарылі кедравую шышку, і яна дагэтуль у мяне захавалася. Гэта, калі прызадумацца, вельмі паказальны момант, бо з тых часоў засталося зусім няшмат рэчаў, і гэта мяне вельмі натхніла на ўсведамленне таго, што шышкі – гэта маё захапленне.*



Аднойчы мой муж з'язджаў у камандзіроўку ў Літву, і адзінае, што я папрасіла яго прывезці, – гэта былі шышкі. Падумалася: як было б цудоўна з кожнай вандроўкі прывозіць не банальныя магніцікі, а шышкі. Менавіта гэты момант можна лічыць днём народзінаў маёй калекцыі. Першае ганаровае месца заняла, вядома, шышка з горада Бірштонас (Літва). Адбылося гэта ўвесну 2015 года.

Мой акаунт у Instagram стаў пэўным каталізатарам маёй калекцыі: я так часта выкладвала фота кампазіцый, на якіх прысутнічалі шышкі, што з цягам часу мае падпісчыкі пачалі адзначаць мяне на сваіх фотаздымках з шышкамі, Так з'явіўся мой тэг #ShishkiDlyaManki. Мне было неверагодна прыемна, бо шмат людзей, якія мяне не ведаюць асабіста, падтрымалі гэтую ідэю, за што я ім вельмі ўдзячная. Перыядычна ў сваім профілі я публікую калажы з тых фотаздымкаў, што адзначаюць маім тэгам.

Неяк адна дзяўчына напісала, што хоча даслаць мне шышкі з французскага горада Манпелье. Праз нейкі час мне прыйшоў вялікі пакунак з водарам хваёвага лесу. Складана перадаць словамі тое адчуванне радасці, што я атрымала. Святлана, тая самая дзяўчына, даслала мне шмат розных шышак, у тым ліку шышкі магноліі, якіх я раней ніколі не бачыла.

*"... і адзінае,*
*што папрасіла яго прывезці, –*
*гэта былі шышкі. »*



Пасля гэтага мне пачалі прыходзіць шышкі і ад іншых падпісчыкаў. Мае сябры таксама вельмі пранікліся маім хобі і зараз заўсёды прывозяць мне шышкі-сувеніры з розных куткоў свету. Такім чынам, зараз у маёй калекцыі ёсць прадстаўнікі з Ніягарскага Вадаспаду, Вашынгтона, Нью-Ёрка, Бостана, Чарнагорыі, Крыта, Балгарыі, Мінска, Нарвегіі, Францыі, Анкары, Анталіі, Старога Крыма, Эльбруса, Карэліі, Геленджыка, з мноства іншых гарадоў Расіі. А таксама, вядома, у маёй калекцыі ёсць шышкі з роднай Масквы.



Мне здаецца, што шышкі, амаль як адбіткі пальцаў: здаецца, падобныя, але паўтораў няма! У любым выпадку, свае калекцыйныя кампазіцыі я імкнуся афармляць па-рознаму. Напрыклад, шышкі з Нарвегіі я ўпрыгожыла засушанымі кветачкамі, якія мне даслалі разам з імі. А кампазіцыя з Крыта атрымалася асаблівай праз галінкі, на якіх яны "сядзелі".















Карысная інфармацыя:
Lisa Serge
фотограф, блогер
instagram.com/manka_v_kruzhevah






# ПАРАДЫ

## ПА ЗБОРЫ, АПРАЦОЎЦЫ І ЗАХОЎВАННІ ШЫШАК

Раю шукаць шышкі ў бязлюдных месцах, каб шышкі былі адпачатку максімальна чыстымі. Збіраць шышкі лепш маладымі, бо старыя могуць вельмі хутка рассыпацца, асабліва пасля прасушкі ў духоўцы. Пасля збору я звычайна проста прамываю шышкі пад вадой, крыху прачышчаю зубной шчоткай, потым прасушваю ў духоўцы. Звярніце ўвагу, што пасля гэтай працэдуры раскрываюцца нават закрытыя шышкі.

Мяне часта запытваюць, як быць з тым, што шышкі мяняюцца ў залежнасці ад вільготнасці? Варта памятаць, што шышкі – гэта прыродны гігрометр. Калі ў памяшканні вільготна, то яны будуць больш закрытымі, калі суха – адкрыюцца цалкам. Можаце правесці эксперымент: пакіньце шышку ў цёплай вадзе на дзве гадзіны. Вы ўбачыце, што яна закрыецца, а паводле высыхання – зноў раскрыецца. Час ад часу я раблю такую працэдуру, каб сфатаграфаваць шышку ў закрытым стане. Шчыльна закрытымі часта застаюцца таксама маладыя шышкі, якія былі такімі ў момант збору, я не сушу іх у духоўцы. Сушыць можна таксама і на гарачай батарэі – тады няма рызыкі, што шышкі перагараць.

А вось прымусіць шышку, якая распусцілася, застацца ў закрытым становішчы – задача цяжэйшая. Я правяла мноства эксперыментаў, і адзін атрымаўся: пасля таго, як шышка цалкам закрылася ў цёплай вадзе, трэба вельмі шчыльна перавязаць яе вяроўкай, як кокан, і ў такім становішчы прасушыць ў духоўцы да поўнага высыхання. Потым зняць вяроўку. Шышка з цягам часу можа ўсё роўна крыху раскрыцца. Калі ж вы хочаце захаваць яе назаўжды закрытай, то паўтарыце маніпуляцыю з вяроўкай і духоўкай яшчэ раз, мне гэта дапамагло.

Шышкі, якія я яшчэ не аформіла ў рамачны домік ці не выкарыстала ў якой-небудзь кампазіцыі, я захоўваю ў крафт-пакецiках з адмысловымі дзірачкамі для “дыхання”.

Шышкі – гэта выдатны матэрыял для творчасці. Складана не пагадзіцца з тым, што шышкі самі па сабе вельмі прыгожыя, таму іх можна проста пакласці ў вазу. А яшчэ яны фотагенічныя і здольныя надаць ўтульную атмасферу любой фатаграфіі.

Тэкст, фота: Lisa Serge

*Мы пабывалі ў гасцях у аднаго з самых вядомых і ўзнагароджаных кніжных ілюстратараў Беларусі Паўла ТАТАРНІКАВА і даведаліся, што самае галоўнае ў яго творчай майстэрні, як маладому спецыялісту дасягнуць поспеху і чаму ў мастака ніколі не было хобі.*



**Факты пра Паўла Татарнікава:**

• нарадзіўся ў горадзе Брэсце ў сям'і мастакоў;

• сярод шматлікіх узнагарод мастака – два вельмі прэстыжныя сярод ілюстратараў прызы "Залаты Яблык" міжнароднага біенале "BIB" за ілюстрацыі да кніг "Кароль Артур" (2009) і "Прынцэса ў падземным царстве" (2001);

• выкладае на кафедры графікі ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў;

• жыве і працуе ў Мінску.

*– Раскажыце, як адбываецца ў вас творчы працэс?*

Звычайна працую адразу над некалькімі кнігамі. У свой час для "Караля Артура" зрабіў каля 150 ілюстрацый, гэта заняло каля двух гадоў працы. Але за гэты час яшчэ тры іншыя кніжкі праілюстраваў. Такое сумяшчэнне дапамагае: надакучыла адно – пераключаешся на другое. А няма іншай працы, дык у мастака заняткаў хапае, тыя ж планшэты нацягнуць. Пакуль кнігу робіш, акрамя эскізаў і ілюстрацый, ёсць шмат іншай, тэхнічнай дзейнасці – падлічыць колькасць старонак, паласу набору, колькасць знакаў у тэксце, колькасць радкоў на паласе. Бо я павінен намаляваць так, каб засталося месца для тэксту, каб ілюстрацыя была на сваім месцы.



*– Над чым працуеце зараз?*

Сумесна з беларускім пісьменнікам і гісторыкам Уладзімірам Арловым працуем над вялікай гістарычнай кнігай "Айчына. Маляўнічая гісторыя". Кніга будзе складацца з дзвюх частках, зараз рыхтуецца да выхаду першая. Што тычыцца майго аздаблення, то там не будзе ілюстраванага тэксту, але кніга будзе ўся складацца з рэканструкцый панарам гарадоў, замкаў, партрэтаў вядомых гістарычных асобаў. Чацвёрты год працую над гэтай кнігай, акрамя непасрэдна малявання, тут шмат даследчыцкай працы. Чытанне літаратуры, паездкі, на-

ват тапаграфічныя здымкі, кансультацыі з гісторыкамі, археолагамі, рэстаўратарамі, архітэктарамі… 40-50 рэканструкцый, каля 100 партрэтаў – гэтыя ілюстрацыі я пачаў рабіць яшчэ да праекта, пасля з'явілася ідэя сумясціць. Мая праца не скончыцца на кнізе, буду далей займацца гэтай тэмай, мне вельмі цікава.

*– Як вы арганізуеце сваю працу над праектамі? Што найбольш важнае для вас у майстэрні?*

Я прывык працаваць дома, гэта для мяне цалкам нармальна. Мы не так даўно пераехалі ў новы дом, і ў мяне з'явілася асобная майстэрня, значна большая за тую, якая была раней. Я лічу, што ў мастака павінна быць нейкая свая прастора, дзе ён сам кіруе. Там абавязкова павінна быць святло – у гэтым плане мая новая майстэрня мяне задавальняе, тут вялікае вакно "да падлогі", у якім бачны прыгожы хваёвы лес. А далей кожны сам для сябе вырашае, як яму зручна. Было б добра, канешне, зачыніцца, але, калі мой трохгадовы сын Ян дома, я люблю, каб ён да мяне прыходзіў. Залезе на каленкі і пытаецца "А можна я?". І здаецца ж, ёсць у яго свае фарбы, але ён аддае перавагу маім (усміхаецца).

## ПРА НАВЫКІ МАЛЯВАННЯ І ЛЮБІМУЮ СПРАВУ

*– Калі пайшла гаворка пра дзяцей, у інтэрнэце пішуць, што маленькі Павел Татарнікаў маляваў у кнігах. А сыну вашаму не забараняеце такую творчасць?*

Мне ж не ва ўсіх кніжках дазвалялі маляваць: бацькі глядзелі, якую можна ўзяць, якую – не, каб больш каштоўныя, тыя ж мастацкія альбомы, не пашкодзіць. А ў нашы часы дзіцячая літаратура з'яўляецца ўжо не толькі наратыўнай кніжкай, аздобленай ілюстрацыямі, яна стала яшчэ і цацкай. Тэксты спалучаюцца з размалёўкамі, налепкамі, выразанкамі… Сына я нават прашу маляваць у такіх кнігах.

*– Як вы лічыце, як і калі можна разгледзець у дзіцяці нейкі творчы патэнцыял?*

Напрыклад, можна заўважыць, як дзеці карыстаюцца кісцю рукі, калі малююць. Бо ў мастака падчас малявання працуюць усе элементы рукі – ад першых фалангаў пальцаў да плечавога сустава, і гэта ўсё звязана з дзейнасцю мозга. Нейкі талент, канешне, закладваецца ў чалавека, але чым раней у дзіцяці фармуюцца навыкі, тым хутчэй яно будзе вылучацца на фоне тых, хто такога вопыту не мае. І немалое значэнне тут мае тое, што дзіця бярэ прыклад з дарослых – менавіта так і з'яўляюцца дынастычныя мастакі. Акрамя таго, дзіцячая адчувальнасць і ўсе што тычыцца сферы пабудовы вобразаў і абстрактнага мыслення, звязана з чытаннем і з назіраннем. І толькі потым ужо ўключаецца талент – бо не абавязкова яго наяўнасць азначае, што дзіця стане мастаком ці музыкантам.

Я з дзяцінства бачыў, як працуе мастак, чуў прафесійную тэрміналогію, мне дазвалялася шмат – таму я рана пачаў засвойваць навыкі. Ды і магчымасцяў у мяне было больш, у часы майго дзяцінства не ў кожнай сям'і былі хаця б каляровыя алоўкі. Таксама ў мяне быў лёгкі доступ да кніг, таму што ў сям'і была вялікая бібліятэка.

*– А калі ў чалавека не было магчымасці вучыцца ў дзяцінстве, а маляваць хочацца?*

Мне жонка неяк расказала: большасць людзей на планеце не любяць сваю прафесію, гэта ж няшчасце! Адсюль, мусіць, і з'яўляюцца хобі. Але творчасць выклікае



імгненнае прывыканне, таму бывае так, што дарослыя людзі, маючы прафесію, працу, усё кідаюць і становяцца мастакамі. Прыкладаў шмат, вядомы Поль Гаген быў дастаткова паспяховым біржавым брокерам.
У мяне ніколі не было хобі ў жыцці. Я і зараз малюю, як гуляю. Мая прафесія – быццам працяг дзяцінства, я атрымоўваю вялікае задавальненне ад працэсу малявання.

*– Ёсць такі выраз: "Калі чалавек будзе займацца любімай справай, то не будзе працаваць ніводнага дня"…*

Так і ёсць. Адзін замоўца мяне пытае: "Атрымоўваеш асалоду, задавальненне ад творчага працэсу?" "Канешне", – кажу я. А ён мне ў адказ: "Дык хто каму павінен плаціць?" Цалкам верагодна, што зменіцца сітуацыя і такое можа быць цалкам магчымым: мастакі будуць прыплачваць, каб ім не перашкаджалі працаваць! (смяецца)

*– Як вы ставіцеся да меркавання, што абсалютна ўсе могуць навучыцца маляваць?*

Усе тычыцца ступені майстэрства. Усе ж дзеці малююць прыкладна аднолькава, так і з дарослымі. Ёсць навыкі, якія могуць засвоіць амаль усе. Але перасягнуць мяжу, выйсці на ўзровень вобразу не кожны зможа. Для гэтага трэба ўмець абстрагавацца. Густ у нейкай ступені можна прывіць, але з большага гэта дадзена прыродай.

## ПРА НАТХНЕННЕ І ПАРАДЫ МАЛАДЫМ МАСТАКАМ

*– У мастака праца складаецца не адно з малявання. Як вы знаходзіце баланс паміж творчасцю і пазатворчай дзейнасцю?*

Гэта частка прафесіі. Канешне, гэта не падабаецца, адцягваеш да апошняга, але трэба сябе прымушаць. Мастакі часцяком ходзяць пакрыўджанымі (замоўцамі, выдаўцамі і г.д.), таму што ў свой час ленаваліся ці лічылі, што тыя ж юрыдычныя пытанні іх не тычыцца. Графікі, ілюстратары больш падрыхтаваныя ў гэтым плане, таму што працуюць з



выдавецтвамі, паліграфіямі: прыходзіцца ўключацца ў працэс, вучыцца. Але і мастакі ёсць розныя, ведаю даволі педантычных.

*- Калі ўсе пытанні вырашаны, адкуль бярэцца натхненне маляваць?*

Усе залежыць ад характару. Бывае так, што ёсць час і ўсе ўмовы для творчасці, а ты сядзіш і не працуеш. І так доўжыцца, пакуль не з’явіцца нейкае эмацыйнае напружанне, напрыклад, тэрміны зыходзяць. Хутчэй за ўсё, для творчасці нейкі элемент напружанасці проста неабходны. Іначай, адкуль узяць нейкі штуршок для эмоцый? А ў другога мастака іншы характар, ён ходзіць у майстэрню, як на працу, і пытанняў з натхненнем не ўзнікае. Бывае так, калі загадзя пачынаеш працаваць і яшчэ на стадыі эскізаў перагараеш эмацыйна. А наперадзе яшчэ арыгіналы рабіць, колеры падбіраць – а для гэтага павінна быць эмоцыя, без яе нічога не атрымаецца. Тады ўжо пакута прымушае – і нічога не атрымоўваецца, праца выходзіць “выпакутаванай”. Студэнтаў сваіх я вучу: ні ў якім разе не перапрацоўваць, не выходзіць у дробныя дэталі на стадыі эскізаў, таму што эмоцыя і задавальненне ад працэсу могуць згарэць.

Натхненне для мяне – умоўная рэч, гэта жаданне маляваць, гэта настрой. Менавіта тая эмацыйная напружанасць, разрадка, калі ты атрымоўваеш задавальненне ад малявання. Ці нават калі не атрымоўваеш, калі працэс ідзе складана, у так званых пакутах творчасці, але гэта таксама натхняе.

*– Што б вы параілі маладым мастакам?*

Не сумаваць. Хоць мастацтва ніколі не было асабліва важнай справай для дзяржавы і грамадства, не трэба здраджваць самому сабе. Заўсёды трымаць сваю любоў для малявання і да мастацтва на належным узроўні. І тады будзе задавальненне, таму



што творчасць павінна прыносіць радасць. Не ленавацца, удзельнічаць у конкурсах і выставах для таго, каб цябе ведалі. Важна, што ты не толькі сябе паказваеш, але і параўноўваеш з іншымі – можна шмат пра сябе даведацца. Конкурсаў вельмі шмат, яны амаль у кожнай краіне ладзяцца. Самыя вядомыя, бадай, Міжнароднае біенале ілюстрацыі ў Браціславе (BIB), Дзіцячы кніжны кірмаш у Балонні (Bologna Children's Book Fair), Прэмія імя Ханса Крысціяна Андэрсана для ілюстратараў (Hans Christian Andersen Award for Illustration). Калі прайшоў адбор у Балонскім кірмашу, то гарантавана без кавалка хлеба не застанешся.

Прыкладна 10 гадоў малады мастак прабівае галавою сценку, не кожны можа гэта вытрымаць. Маладым часам здаецца, што ўсе чыннікі для поспеху ў іх ёсць, адчуваюць моц, талент, патэнцыял, а яшчэ і адукацыю атрымалі, усё ведаюць. А паказаць – няма чаго. Для гэтага і трэба папрацаваць. Талент, як добрае віно, павінен настаяцца.

*"Талент, як добрае віно, павінен настаяцца"*

У якіх конкурсах я толькі не ўдзельнічаў у свой час, дзе толькі не выстаўляўся. Мая "сцяна" прабілася, таму я ўжо маю магчымасць выбіраць. Працы вельмі шмат, выдаўцы і замоўцы стаяць у чарзе на некалькі гадоў наперад. Ніякай сакральнасці ў адносінах да мастацтва ў мяне няма. Гэта прафесія. Працую, зарабляю грошы, стараюся ўтрымліваць сям'ю, хоць гэта вельмі не проста. У вольных мастакоў то густа, то пуста, да гэтага маладому мастаку трэба рыхтавацца.

**Карысная інфармацыя:**

Павел Татарнікаў,
мастак, ілюстратар

tatarnikov.com



# РУХавік

*Паэт з Мінска Павел ДАРОХІН стаў пераможцам па версіі ALOVAK паэтычнага конкурсу "Рухавік", у якім наш часопіс удзельнічаў у якасці інфармацыйнага партнёра.*

*Конкурс праходзіў у верасні – снежні 2015 года, больш за 50 маладых літаратараў выступалі са сваімі вершамі ў так званых "батлах".*

*Мы віншуем Паўла і з радасцю публікуем яго твор з ілюстрацыяй мастака Паўла ТАТАРНІКАВА!*

*ALOVAK за творчасць у любой яе праяве!*

Я выкройваў тканіну сноў,
Перакінуўшы рэйкі на поўнач,
Пахіснуўшы фундамент асноў,
Не кранаючы Тых, хто побач.
Перарэзаўшы подых прэч
Гэткай дупай, што бачна мне з форткі.
Я па грудзі ў брудзе, як рэч,
Што пакінулі дзеля абгорткі.
Ды аднойчы, пачуўшы стрэл,
Бездань месцаў зыходзячы з краю,
Апынуўся там, дзе хацеў,
А не там, дзе хтосьці параіў.

Павел Дарохін



# СНЕЖНАЕ

*Зіма – выдатны час для старых добрых гісторый. Прапануем стылізаваную версію казкі Самуіла Маршака “12 месяцаў”. Халодныя адценні зімы змяняюцца пастэльнымі тонамі, а снежны лес саступае месца студыйнай здымцы з арыгінальнымі дэталямі: велізарнымі падснежнікамі, утульнымі вязанымі рэчамі і стыльнымі аксэсуарамі – сучаснае прачытанне дзіцячай класікі by ALOVAK. Глядзіце хутчэй самі!*



# ПАДСНЕЖНІКІ

*Падснежнікі з гафрыраванай паперы могуць стаць упрыгажэннем вашага дома ці атрыбутам для фотаздымак. Спецыяльна для зімовага нумару ALOVAK дэкаратар Юлія Трафіменка зрабіла гэтыя першацветы стылізаванымі – вышынёй каля 50 см, з срэбнымі сцяблінкамі і ліасткамі. Вы можаце спыніцца на класічным спалучэнні белага і зялёнага колераў, а памер абраць суадносна вашай задуме.*

Пакрокавы майстар-клас па стварэнні падснежнікаў з гафрапаперы ад Юліі Трафіменкі шукайце ў раздзеле "Карыснае" на сайце alovakmag.by

# ШАПКА

*Забіяцкая і стылёвая, такая шапка дакладна не пакіне вас незаўважанымі! Высакародныя адценні шэрага стрымліваюць гарэзлівасць вялікіх пампонаў. Калі вы пакуль не гатовыя да такога смелага эксперыменту, то можаце зрабіць адзін пампон меншага памеру.*

*Шапка:* *Merino Wool*



Пакрокавы майстар-клас па вязанні шапкі ад MerinoWool шукайце ў раздзеле “Карыснае” на сайце alovakmag.by

# *ПАПЯРОВЫЯ ПАКЕТЫ*

*Пакеты для захоўвання, зробленыя са шчыльнай паперы (Paper Storage Sacks), сталі вельмі папулярнымі ў еўрапейскіх краінах, і гэта не выпадкова. Яны стылёва выглядаюць у інтэр'еры, простыя ў вырабе і дасягальныя па матэрыялах. Галоўнае, падабраць падыходзячую па шчыльнасці і колеры паперу. Ад памеру такога пакета залежыць, як яго можна выкарыстоўваць: маленькія прыгодныя для захоўвання дробязяў, тканінаў, пражы для вязання, у пакеты паболей можна скласці дзіцячыя цацкі ці, напрыклад, плед.*

Шукайце інструкцыю па вырабе папяровых пакетаў у раздзеле "Карыснае" на нашым сайце alovakmag.by.

# ШАЛІК З ПАМПОНАЎ

*Гэты неверагодна мяккі і аб'ёмны шалік ад Bago зроблены з 30 пампонаў. Вы можаце паэксперыментаваць як з колькасцю пампонаў, так і з іх дыяметрам.*

**З інструментаў і матэрыялаў вам спатрэбяцца:**

- каля 5 скруткаў пражы 100 г/300 м;
- кардон;
- нажніцы.

1. Робім нарыхтоўку для пампона: выразаем два кардонныя "бублікі", знешні дыяметр якіх 8 см, унутраны – 3 см (атрымаецца пампон дыяметрам каля 7,5 см).

2. Адмяраем нітку даўжынёю 25-30 метраў (для больш тоўстай пражы будзе меншая даўжыня), дзелім на 3-4 часткі і асцярожна, як мага болей раўнамерна намотваем на складзеныя разам кардонныя нарыхтоўкі. Чым больш ніткак мы наматаем, тым шчыльнейшы атрымаецца пампон.

3. Разразаем ніткі па акружнасці, праводзячы нажніцамі паміж кардонкамі. Робім гэта вельмі асцярожна, каб ніткі не рассыпаліся.

4. Устаўляем паміж кардонкамі падвойную нітку і моцна завязваем наш пампон.

5. Здымаем "бублікі" так, каб не зрушыць злучальную нітку з сярэдзіны і зацягваем яе як мага тужэй. Пры неабходнасці раўняем, падразаем пампон і бяромся за наступны.

6. Гатовыя пампоны нанізваем на нітку, якая зробленая з 10-20 нітак.

**Парада:**
*Выкарыстоўваючы некалькі адценняў нітак, можна рабіць і аднатонныя, і стракатыя пампоны. У гэтым выпадку зададзеная агульная даўжыня ніткі будзе раздзеленая паміж суадноснай колькасцю нітак розных колераў.*

Шарф: Bago



Ніткі для шаліка: Mani Dōro

Ідэя і арганізацыя: ALOVAK

Фота: Таццяна Ціхамірава

Стыль: Яна Бадзяк

Мадэль: Валянціна Белянка

Дэкор: Юлія Трафіменка

Макіяж: Наталля Бура

Асістэнт візажыста: Алёна Жыдзелева

Прычоска: Вікторыя Мілер

Месца здымкі: Studio67

Кардыган: Petelka

Спадніца: 11KRSTUDIO

Абутак: ZIBRA

Гольф: уласнасць стыліста



*Прыдумляем па навуцы.*

# СІНЕКТЫКА

*Прапануем пазнаёміцца яшчэ з адным метадам пошуку нестандартных ідэй – сінектыкай, з дапамогай якой прыдумаем штонебудзь незвычайнае і цікавае.*

Метад сінектыкі ў 1952 годзе вывеў амерыканскі навуковец і вынаходнік Уільям Гордан, у 1960 годзе ў Бостане ён жа заснаваў кансалтынгавую кампанію Synectics Inc. Праз год выйшла кніга Гордана “Сінектыка: развіццё творчага ўяўлення”, пасля чаго яго метад пайшоў у масы і набыў папулярнасць.

“Сінектыка” ў перакладзе з грэчаскай азначае “сумяшчэнне разнастайных элементаў”

Мы разгледзім трохі спрошчаны варыянт метаду.
Сутнасць метаду ў пошуку розных відаў аналогій і сумяшчэнне несумяшчальнага.
Мы будзем працаваць з чатырма відамі аналогій, на кожным этапе вывучэння ў нас будуць з'яўляцца ідэі. Але для пачатку давайце паставім сабе задачу.

**ЗАДАЧА:** прыдумаць арыгінальную падстаўку для канцылярскіх прылад.

| апісанне | прыклад |
|---|---|
| 1. ПРАМЫЯ АНАЛОГІІ | |
| Шукаем аб'екты з іншых галінаў, якія выконваюць аналагічную функцыю або валодаюць такой самай будовай. Адаптоўваем, запазычваем аналогіі. | Што выконвае функцыю падстаўкі?<br>Падстаўка для:<br>- Сталовых прыбораў;<br>- Зубных шчотак;<br>- Водарных палачак;<br>- Парасонаў;<br>- Нажоў.<br>Вось і з'явіліся першыя ідэі. Глядзіце мал. 1.1 і 1.2 |
| 2. АСАБІСТЫЯ АНАЛОГІІ | |
| Ставім сябе на месца аб'екта або часткі аб'екта і прыдумляем, якім аб'ектам мы былі б, што рабілі б. Забудзьцеся пра логіку і прыслухайцеся да сябе. | Якой падстаўкай я быў бы, як бы мяне выкарыстоўвалі, як я хацеў бы, каб мяне выкарыстоўвалі?<br>"Хачу быць вельмі ёмістай, шмат'яруснай падстаўкай, у якой бы рэгулявалася вышыня". Глядзіце мал. 2.1.<br>"Хачу быць такой падстаўкай, каб не прыходзілася шукаць патрэбны колер алоўка, а ўсе яны былі б на вачах".<br>Так нам прыйшла ў галаву ідэя пра магнітную дошку з алоўкамі (прылепім да алоўка магнітную стужку або пафарбуем яго магнітнай фарбай). Глядзіце мал. 2.2. |












| 3. СІМВАЛІЧНЫЯ АНАЛОГІІ | |
|---|---|
| Апісваем задачу сімваламі або метафарамі, зыходзячы з асноўнай функцыі аб'екта. Важна паказаць галоўную сутнасць прадмета абстрактна, нават парадаксальна. Паспрабуйце прыдумаць апісанне ў некалькіх словах, у якім адно слова супярэчыць па змесце другому, каб атрымалася нешта нечаканае, дзіўнае. | Якая галоўная функцыя падстаўкі для ручак і алоўкаў? Захоўваць у парадку алоўкі і ручкі. Выводзім варыянты назваў аб'екту:<br>- “Захавальнік канцылярыі”;<br>- “Упарадкавальнік алоўкаў”;<br>- “Размеркавальнік канцылярыі”;<br>- “Стымул маляваць”;<br>- “Утрымальнік ідэй”;<br>- “Ручны трымальнік”;<br>- “Трымальнік творчых дзеравяшак” і г.д.<br><br>Задзейнічаем у апісанні супрацьлегласці (можна выкарыстоўваць слоўнік антонімаў):<br>- “Трымальнік, які расходуе”;<br>- “Расходнік, які захоўвае”;<br>- “Спарадкаваны хаос”.<br>Глядзіце мал. 3.1 |
| **4. ФАНТАСТЫЧНЫЯ АНАЛОГІІ** | |
| Уключаем фантазію, успамінаем казкі, міфы, фантастычныя апавяданні, прыкідваючы, хто з выдуманага свету мог бы прыйсці нам на дапамогу. | Напрыклад, у рашэнні задачы паклічам да сябе шапку-невідзімку. Вось бы надзець на падстаўку такую шапачку, якая дазволіць вызваліць прастору – на стале з'яўляецца нябачная падстаўка. Або запросім Бабу-Ягу, у якой хатка паварочвалася “да мяне перадам, да лесу задам ...”. Так мы ствараем падстаўку, якая круціцца. Глядзіце малюнак 4.1.<br>А дыван-самалёт навёў на думку зрабіць падстаўку ў выглядзе гамака. Глядзіце мал. 4.2 |




Раздрукаваць табліцу для пошуку сваіх ідэй вы можаце ў раздзеле “Карыснае” на сайце alovakmag.by.

**Прыдумляйце з задавальненнем!**

Тэкст, ілюстрацыі: Ірына Бельская

# Любіш паганяць – любі і каня гадаваць



ілюстрацыя: Яна Бунцэвіч

# #ШЫШКАДНЯ

У мінулым нумары часопіса мы аб’явілі пра запуск флэшмоба ў нашым акаўнце ў Instagram на тэму “шышка дня”. На працягу апошніх некалькіх месяцаў мы з нашымі падпісчыкамі фатаграфавалі шышкі і выкладвалі ў сетку фатаграфіі з хэштэгам #шышкадня дня і #шишкадня. Падборка самых цікавых у гэтым нумары. Дзякуем усім удзельнікам!



FOLLOW ALOVAKmag ON INSTAGRAM
@alovakmag



















1 – @_hedvica_; 2 – @daria_shantalosova; 3 – @happypany; 4 – @khrabrovskaya_irina; 5 – @enverve; 6 – @katsibou;

# АБ’ЯВА!

Тэма наступнага флэш-мобу – **КАРА**. Фатаграфуйце кару на дрэвах, малюйце яе, выкарыстоўвайце ў творчасці – фантазіруйце! Выкладвайце фатаграфіі ў сваім профілі з хэштэгам **#карадняALOVAK** ці **#кораднянALOVAK**. Лепшыя здымкі з’явяцца ў падборцы ALOVAK #6.



7.


8.


9.


10.



11.


12.


13.


14.


15.

7 – @kunitskayaanna; 8 – @leanovich; 9 – @manka_v_kruzhevah; 10 – @tata_danilushkina; 11 – @lotus.land2; 12 – @irininskaya; 13 – @svksenia; 14 – @korshak_designer; 15 – @yanni_art.

*Я вельмі люблю падарожнічаць і заўсёды падчас вандроўкі замалёўваю тое, што мяне ўразіла. Бо даўно заўважыла, што мая тысяча з нечым здымкаў не перадае той настрой, што захоўваецца ў некалькіх хуткіх і экспрэсіўных ці наадварот доўгіх і ўважлівых малюнках, якія я пакідаю ў нататніку ці альбоме. Кожны горад, кожная вуліца, кожны куток маюць сваю атмасферу, якую я прапускаю праз сябе ў працэсе і потым частку гэтай атмасферы вязу з сабой дадому ў тэчцы. У сваіх родных мясцінах таксама заўжды можна знайсці шмат цікавага і вартага ўвагі, толькі трэба імкнуцца глядзець на ўсё навокал так, як быццам бачыш першы раз у жыцці, і знаходзіць незвычайныя дэталі.*

## Матэрыялы і інструменты:



*парады:*

*Я звычайна выкарыстоўваю спіртавыя маркеры і спецыяльны альбом фармату A4+. Маркерамі можна маляваць на любой паперы, але трэба мець на ўвазе, што звычайная "выцягвае" фарбу з інструмента нашмат хутчэй, і ён служыць не так доўга, да таго ж колеры праступаюць на адваротным баку малюнка.*

*Кожны чалавек выбірае сваю характэрную гаму сам: камусьці падабаюцца яркія колеры, хтосьці любіць рабіць больш стрымана. Усё залежыць ад задачы і настрою. Шляхам спроб і памылак я вызначыла тое, што лепш не набываць адныя яркія чыстыя колеры, яны добрыя толькі для акцэнтаў. Варта мець у запасе складаныя адценні, напрыклад, у мяне заўсёды з сабой абавязкова некалькі амаль чорных колераў, набор халодных (фіялетавы, светлы і цёмны блакітны ), цёплы набор (цёмна-вохрысты, бледны жоўты, светла-цагляны) і салатавы для зеляніны проста таму, што я люблю менавіта гэты колер.*

*1.*

**Выбраць выгляд, які мы будзем маляваць.** У дадзеным выпадку я вазьму сваё фота, зробленае ў Варшаве. Найлепш, канешне, рабіць замалёўкі з натуры, на здымках шмат якія рэчы губляюцца, а задача спрашчаецца, бо за нас палову справы робіць камера.



## 2.

**Зрабіць невялікі эскіз, каб вызначыцца з кампазіцыяй і тонам.** Ён не павінен быць прыгожым і займаць шмат часу, і гэта не канон, ад якога нельга адступаць, гэта толькі дапамога. На сваім эскізе я вызначыла, што мост будзе светлым на цёмным фоне, а дрэвы, наадварот, цёмнымі на светлым, ад гэтага ўжо з'яўляецца цікавы рытм, які нам падказала само фота.




## 3.

**Прыступаем да замалёўкі.** Я адразу пачынаю лінерам, бо так вучышся думаць, трэніруеш руку і вока. Але калі ёсць сумненні, то можна злёгку абазначыць алоўкам асноўныя масы і прапорцыі, абапіраючыся на эскіз. Затым, абавязкова дачакаўшыся таго, каб лінер высах, ахайна сцерці. Маркерная папера даволі тонкая і лёгка камячыцца, а пасля слою маркераў аловак ужо не знікне. Я не прамалёўваю дробныя дэталі лінерам, бо ён можа непрадбачна расцерціся і трохі папсаваць замалёўку і маркер.



## 4.

**Пераходзім да маркераў і абазначаем імі асноўныя колеры.** У любой “жывапіснай” працы заўжды варта вызначыць пэўную абмежаваную колькасць колераў, якія будуць дамінантнымі, зазвычай – каля чатырох. Я гляджу на натуру і вырашаю адразу пачаць з неба, як з самага зразумелага для мяне. І тут жа я даю гэты ж сіні крыху ў іншых месцах для падтрымкі. Мост я вырашаю зрабіць умоўна жоўтым. У натуры ён не такі, але, па-першае, у нас не заўжды ёсць усе колеры пад рукой, як у фарбах, па-другое, мне хочацца такім спосабам перадаць менавіта адчуванне яркага сонечнага дня. Фіялетавым я падкрэсліваю цень, ён цудоўна падыходзіць для такога, а салатавым – зеляніну.




*парада:*

*З маркерамі лепш пачынаць з ценяў і менавіта ў іх паказваць сапраўдны колер прадмета, а на святле пакідаць белым.*

## 5.

**Прамалёўваем яшчэ трохі дэталяў лінерам і ставім акцэнты цёмным маркерам.** Я размяркоўваю ўсё па рытме, чаргую зафарбаваныя плоскасці з некранутай паперай. Я люблю пакідаць шмат белай паперы і выкарыстоўваць фон як яшчэ адзін колер, гэта надае працы свежасць і лёгкасць.

*парада:*

*Маркеры добра падыходзяць для розных характэрных фактур і структуры прадметаў, імі можна як зафарбаваць роўную плоскасць (асфальт), так і зрабіць дробныя мазкі (дрэва), і адразу адчуваецца рознасць матэрыялаў.*



## 6.

**Працягваем працу з маркерамі.** Маркеры можна змешваць па тых жа правілах, як і звычайныя жывапісныя матэрыялы. Не ўсе спалучэнні атрымліваюцца заўжды ўдалымі, трэба спрабаваць. Варта быць асцярожным: тры і больш змешаных маркераў могуць стварыць брудны незразумелы колер.



## парада:

*Я імкнуся на кожным этапе весці малюнак так, каб ён выглядаў цэльна, не прамалёўваю нейкі адзін фрагмент, пакуль астатняя частка аркуша застаецца незапоўненай. Увесь час вяртаюся*

## 7.

**У фінале дадаем лінерам дэталі.** Я выкарыстоўваю чорны лінер, бо ён добра аб'ядноўвае, дапамагае ствараць дэталі і надае жывасці і фактурнасці, ім заўжды можна разбіць аднатонны фрагмент, не мяняючы тон. І трэба ўмець своечасова спыніцца: калі ёсць сумненні, то лепш пакінуць і падумаць, чым на гарачую галаву ўсё сапсаваць. Такі фармат у мяне займае прыкладна каля 40 хвілін – гадзіны часу. Усё, замалёўку можна лічыць завершанай!



**Карысная інфармацыя:**

Лілія Давыдоўская
Ілюстратар, дызайнер

instagram.com/lilian_oz
behance.net/lili_oz

Вы любіце паштоўкі? Можа вы іх калекцыянуеце, адпраўляеце без нагоды ці дасылаеце сабе і сябрам паштоўкі з падарожжаў? А можа вы заўзяты посткросер? Каманда нашага часопіса вельмі прачула ставіцца да друкаваных паштовак, да паштовых адзнак, штампаў і марак. У гэтым нумары мы знаёмім вас з чарговай аўтарскай паштоўкай by ALOVAK. Спадзяемся, гэтая паштоўка падорыць вам усмешку і цяпло нашых сэрцаў.

## *Вы хочаце атрымаць такую паштоўку ў сваю паштовую скрыню?*

Падпісвайцеся на нашы старонкі ў Facebook і Вконтакте, дзе вы даведаецеся падрабязней пра тое, як вельмі проста і лёгка яна можа ў вас апынуцца.



# геаметрычны ТЭСТ

*А вы любіце малюнкавыя тэсты?*
*Давайце маляваць! Дакладней дамалёўваць.*

*Раздрукуйце ліст з шасцю малюнкамі (спампаваць можна ў раздзеле "Карыснае" на нашым сайце alovakmag.by) і дамалюйце ў кожным квадраце прапанаваныя элементы, каб атрымаліся скончаныя вобразы. Кожны малюнак ахарактарызуйце прыметнікам (разумны, добры і г.д.). У вас павінна атрымацца шэсць малюнкаў і шэсць прыметнікаў.*




Што абазначаюць гэтыя малюнкі і вашы апісанні да іх, глядзіце на стар. **97**

# Бадзёрай раніцы!

*Зіма – самы час прыгадаць дзяцінства і вясёлай кампаніяй ляпіць снегавікоў, падбіраючы прыгожыя гузікі для вачэй і найвялікшую ў хаце моркву для носа. Так займальна гуляцца ў сняжкі, будаваць крэпасці, рабіць снежных анёлаў, катацца на каньках, лыжах і санках …Але раніцай так не хочацца развітвацца з мяккай, утульнай коўдрай!*
*ALOVAK ведае, як перастаць баяцца халадоў і атрымаць зарад бадзёрасці на ўвесь дзень. Гарачы, падбадзёрлівы тонік размалюе нават самую шэрую і халодную раніцу, а творчыя ідэі расквітнеюць унутры вас вясеннімі фарбамі. Ранішні напой не толькі смачны, але і каштоўны: ён паляпшае страваванне, бадзёрыць і дорыць стомленаму ад зімы арганізму такія неабходныя ўсім нам вітаміны.*



# Рэцэпт падбадзёрлівага ранішняга тоніку:




## Піце яго гарачым і абудзіце ў сабе творчасць!

Рэцэпт: Ірына Агейчык (inarilaine.tumblr.com)
Тэкст: Настасся Цішкавец
Ілюстрацыі: Дар'я Уласава




*Гераіняй нашай пастаяннай рубрыкі “Творчы шлях” пятага нумара ALOVAK стала Алена Мельнік, якая стварыла анлайн-клуб “Minchanka.by”. За час існавання праекту яго камандай былі сфатаграфаваны сотні маляўнічых майстар-класаў па рукадзеллі і кулінарыі, зроблены інтэрв’ю з мноствам творчых людзей, праведзены дзясяткі конкурсаў і мерапрыемстваў. Мы пабывалі ў самым “сэрцы” клубу: у студыі “Мінчанкі”, пагаварылі з Аленай пра праект і даведаліся, чым жыве сама яго стваральніца.*

*Над інтэрв’ю працавала Юлія Багданчык*

*Фота прадстаўлены Аленай Мельнік*

## З чаго ўсё пачыналася

Як ні банальна гэта прагучыць, але ўсё пачалося з дзяцінства. З неверагоднага імкнення да мастацтва, якое выявілася тады ў цікаўнасці да музыкі і малявання. У пяцігадовым узросце я папрасіла бацькоў запісаць мяне ў музычную школу, у якой я ў выніку правяла сем гадоў, пастаянна займаючыся сальфеджыа і фартэпіяна.

Заняткі музыкай перакрыжоўваліся з маляваннем на ўсім, што траплялася на вочы. Дома ніяк не абмяжоўвалі мае “мастацкія” парывы і дазвалялі маляваць хоць на сценах, хоць на столі, няцяжка ўявіць, да чаго быў падобны мой пакой.

Пасля сканчэння музычнай школы пачаўся доўгі перапынак у музіцыраванні, што часта здараецца з выпускнікамі. Было прынятае рашэнне прысвяціць сябе выяўленчаму мастацтву. Пасля сканчэння школы я пачала ўдумліва і павольна шукаць сябе. Мне пашанцавала павучыцца ў цудоўнага мадэльера, на той час галоўнага мастака Беларускага цэнтру моды Ніны Астапенка. Я ўдзячная ёй за час, майстэрства і натхненне, якімі яна шчодра падзялілася са мной. Увогуле мне заўсёды вельмі шанцавала на настаўнікаў! Малюнкам са мной займалася таленавітая архітэктар Марына Сямёнава, жывапісам – мастак Віктар Данілаў, майстар сваёй справы. Яны дапамаглі мне вывучыць і адчуць матэрыял, знайсці сябе ў ім – гэта больш чым проста каштоўна.

У пэўны момант я зразумела, што па-сапраўднаму мяне цікавіць прыкладное мастацтва. Перада мной у адначассе адкрыліся дзве перспектывы ў гэтым кірунку: па-першае, у тагачасным Беларускім інстытуце мастацтва адкрыўся першы набор на спецыяльнасць “Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва”, усе пяць гадоў, што я тут вучылася – гэта было 100% маё месца, са сваёй цудоўнай атмасферай, заняткамі і выкладчыкамі! Па-другое, у мяне з’явілася магчымасць штодзённа вывучаць навуку камп’ютарнай графікі, калі тата падарыў мне вельмі магутны па тых часах камп’ютар з усімі неабходнымі праграмамі.

Пасля абароны дыплома я досыць доўга працавала дызайнерам у рэкламных агенцтвах. Там я атрымала каштоўны вопыт праектнай працы, засвоіла мультымедыа, неаднакроць перамагала на дызайнерскіх фестывалях. У адзін цудоўны момант адчула ў сабе моц і жаданне стварыць уласны праект, які б аб’ядноўваў усе мае ўменні і магчымасці ў адзінае. Так з’явілася “Мінчанка”.

# Пра “Мінчанку”

Калі быць дакладнай, то замахнулася я тады адразу на два праекты: “Мінчанку” і “Пакет” (packet.by), праект, прысвечаны дызайну ўпакоўкі, якім шмат гадоў прафесійна займаецца мой муж. Стаўку я рабіла акурат на “Пакет”, тым больш што менавіта з ім мы перамаглі ў намінацыі “Культура” на конкурсе кантэнт-праектаў, што арганізаваны tut.by. Але лёс вырашыў інакш: менавіта “Мінчанка” ад пачатку свайго існавання стала цэнтрам прыцягнення мноства цікавых людзей. Такі водгук на праект надаў яшчэ больш упэўненасці ў правільнасці абранага шляху, і вось ужо шэсць гадоў штодзённа мы выходзім на “звышгалактычны” кантакт з нашымі чытачамі :)

За час працы праект вельмі відазмяніўся – падрабязны аналіз і час дапамаглі нам дакладна вызначыцца з тым, што істотна, а ад чаго можна адмовіцца. Наш праект сёння – гэта клуб з асабістымі галерэямі карыстальнікаў, тэматычнымі зносінамі і ідэяй спаборніцтва. Зараз у рэжыме “нон-стоп” праходзяць конкурсы і ўсемагчымыя анлайн-праекты, якія дазваляюць кожнаму ўдзельніку клуба ярка заявіць пра сябе і сваё мастацтва. Мы пасябравалі з чытачкамі з самых розных краін! У нас ёсць пастаянныя намінацыі “Гераіня тыдня”, “Неверагодная пяцёрка месяца”.

У сваёй аснове наш праект некамерцыйны, ён напаўняецца іншымі энергіямі і ў яго іншая задача. “Мінчанка” – гэта пункт зарадкі мноства людзей, гэта творчы і вельмі заразны “вірус”. Калі мяне запытваюць, у чым унікальнасць гэтага праекта, я адказваю, што кожны праект, зро-





блены сумленна і па-сапраўднаму зацікаўленымі людзьмі, унікальны! На шчасце, такіх праектаў у сеціве мноства – гэта натхняе развівацца і ўдасканальвацца.

## *Пра арганізацыю працы*

Напачатку я ўскладала вялікія надзеі на ўсемагчымыя спісы, анлайн-планінгі і планёркі з "лятучкамі". Але досыць хутка зразумела, што з творчымі жанчынамі – а калектыў у нас у аснове жаночы – гэта не працуе. Таму асноўны арганізацыйны стрыжань я вырашыла ўзяць на сябе, улічваючы ў працэсе планавання публікацый, здымак і сустрэч пэўную неспадзяванасць працэсу.
Я імкнуся ўсё арганізоўваць такім чынам, каб я і ўсе аўтары змаглі напоўную рэалізаваць свае магчымасці і задумкі, давесці ідэі да якаснага выніку і адчуць задаволенасць ад зробленай працы на кожным яе этапе.
Натуральна, што на выпадак форс-мажору ў нас заўсёды маюцца ў запасе "выратавальныя" матэрыялы, так што чытачы проста не заўважаюць гэты фактар – і гэта цудоўна! Вось такая працоўная схема.



# *Пра натхненне*

Мне няма неабходнасці натхняць сябе на працу, работа над праектам сама натхняе мяне. Я займаюся яго дызайнам, здымаю майстар-класы, запісваю інтэрв'ю, малюю паштоўкі і дыпломы да конкурсаў, прыдумваю прынты на майкі і торбы з нашай сімволікай, малюнкі на посуд... І канешне ж, мяне натхняе музыка, дарэчы, яна ўжо даўно пасялілася ў нас на праекце. Па раніцах і вечарах мы рыхтуем маленькі падарунак для нашых чытачоў – музыкальны трэк і карцінку "з настроем". Ведаю, што многія з нашых наведвальнікаў пачынаюць свой дзень з кубачка кавы і нашай музыкі – вось яно, натхненне!

**Карысная інфармацыя:**

Алена Мельнік, стваральніца клубу Minchanka.by



# ДРЫЯДЫ

Праект "Дрыяды" створаны камандай таленавітых людзей пад кіраўніцтвам фотамастака Ганны Герт. Праца над праектам заняла амаль год, вынікам сталі дзіўныя фатаграфіі, у якіх 12 месяцаў календара ўвасоблены ў вобразе міфічных дрыяд. Вось як апісваюць праект самі аўтары:

*"Цэнтрам творчай увагі сталі так званыя "Дрыяды" – німфы дрэваў, заступніцы лясоў, міфічныя істоты. Лічыцца, што яны здольныя прадказваць будучыню і дапамагаць людзям. Гэта іншы свет, вокам крануцца якога немагчыма. Дрыяды спрабуюць размаўляць, але не валодаюць чалавечай мовай. Яны валодаюць вамі, пакуль вы знаходзіцеся ў захапленні. Аўтары запрашаюць усіх на прастору скрыжавання выяўленчых і моўных сэнсаў. Арт-фотапраект "Дрыяды" – гэта асэнсаваная ўражлівасць прафесійных мастакоў".*

На старонках пятага нумара ALOVAK мы публікуем вобразы зімовых месяцаў.
Больш фотаздымкаў глядзіце тут: gert.by/details/1531

**Над праектам працавалі:**
аўтар праекта, фотамастак: Ганна Герт
мастак-мадэльер: Ала Свірыдзенка
дызайнер авангардных упрыгожанняў: Дар'я Палуян
стыліст праекта: Надзея Сліжэўская
аўтар мастацкіх тэкстаў: Надзея Падрэз

*Чарговы аповед пра традыцыі беларусаў ад мастака, сябры Студэнцкага этнаграфічнага таварыства Насты ГЛУШКО.*



Скончылася пара вясёлых зімовых святаў – Каляд, Новага году, якія звычайна асацыюцца ў беларусаў з калядоўшчыкамі – вандроўнікамі ад хаты да хаты з зоркай, Казой і Мядзведзем. Але ж не ўсе ведаюць, што абыходзяць двары з віншаваннямі і песнямі на Каляды не па ўсёй Беларусі. Есць мясціны, дзе абыходны абрад існуе толькі на Вялікдзень, напрыклад, у цэлым шэрагу раёнаў Віцебшчыны. А што ж адбываецца там зімой? А зімой там **“жэняць Цярэшку”.**

**Хто такі гэты Цярэшка і чаму ён жэніцца?** Этнографы выказваюць самыя розныя меркаванні. Так, боства, якое цяпер хаваецца пад жартаўлівым імем Цярэшка, у даўнейшыя часы з’яўлялася апекуном кахання і шлюбу, маладых сямейных параў. А вось са словаў песень вынікае, што ён мог прысутнічаць на свяце пад выглядам старога дзеда: “Цярэшка, каху, каху, што ў цябе ў мяху, у мяху, шпілечкі, іголачкі. залаты пярсцёначкі!”, ці драўлянай фігуркі: “Цярэшка цярэжыла, на печы не ўлежала, а з печы звалілася, на крошкі разбілася...” Драўляны хлопчык Цярэшка, ці, па-іншаму, Цялешык, узгадваецца і ў казках, дзе ён ажывае на радасць сваім бяздзетным бацькам. Варыянтаў шмат, але зразумела адно, вобраз гэты прыйшоў да нас з вельмі старажытных часоў.

**Па сутнасці, Жаніцьба Цярэшкі – сакральная дзея,** якая сімвалізуе пераход маладых людзей з катэгорыі падлеткаў у катэгорыю моладзі шлюбнага ўзросту. У старажытнасці ўспрымалася як сімвалічны шлюб з самім боствам. Акрамя таго, гэты абрад даваў і дае цудоўную магчымасць для моладзі пазнаёміцца паміж сабою, прыгледзець сабе сапраўдную пару. “Жэняць Цярэшку” ў першыя тры дні Калядаў.

**Абрад гэты ў нашыя часы нагадвае вясёлую гульню** з танцамі, гульнямі і пачастункамі. Удзел прымае моладзь, жанатыя і замужнія маглі прысутнічаць толькі ў якасці гледачоў. *Неверагодна, але старажытны абрад не знік за часам. І нават, перажываючы новую хвалю папулярнасці, паціху прыжываецца ў гарадскім асяродку. Чым не ідэя для каляднай вечарынкі?:)*



*Есць некалькі варыянтаў абраду. Вось самы распаўсюджаны.*

*Збіраюцца ўсе ў адной хаце, танчаць да пачатку гульні, якая распачнецца прыблізна апоўначы. Гульня нагадвае вяселле, дзе прымаюць удзел адразу некалькі дзясяткаў пар. Абіраюць "Бацьку" і "Маці", якіх таксама паміж сабой "жэняць", перакруціўшы ў танцы, пад лявоніху. Хлопцы і дзяўчаты знаёмяцца паміж сабой, прыглядаюцца адно да аднаго пад час танцаў. Дзяўчаты распавядаюць Маці, хто з хлопцаў каму спадабаўся, хлопцы – Бацьку. Самая складаная задача – злучыць пары так, каб нікога не пакрыўдзіць. Сабраўшы ўсе пажаданні, Бацька і Маці раяцца паміж сабой, складаюць пары, што зрабіць, часам, зусім не проста. Калі ўсё гатова, гукаюць: "Можа, пара ўжо жаніцца?" І пачынаецца самае цікавае! Наперад жа ніхто не ведае, з кім яго ажэняць. Для кагось гэта можа стацца прыемным сюрпрызам, а камусьці не так пашанцуе.*



*Дзяўчат і хлопцаў выклікаюць наперад папарна.*
*Далей гучыць лявоніха, хлопец з дзеўчынай, пабраўшыся пад рукі, перакручваюцца ў танцы. Лічыцца што яны "ажаніліся". Адзін аднаго яны клічуць "Дзядулечка" і "Бабулечка". Калі ўсе пары склаліся, пачынаецца вясёлая гульня-выпрабаванне трываласці пар, спрыту жаніхоў і нявест. "Дзядулькі" і "Бабулькі" даганяюць адзін аднаго па чарзе. І вось тут можна ўжо выказацца адносна вашай пары! Існуе, напэўна, сотня вясёлых прыпевак, дзе дзяўчаты хваляць альбо лаюць сваіх "дзядулек", ды і хлопцы ад іх не адстаюць у кпінах.*

*Нагуляўшыся, станчыўшы апошні раз лявоніху, усе разыходзяцца па хатах, каб зранку зноў сабрацца разам за святочным сталом. Сядаюць за стол парамі, частуюцца, пяюць песні. На працягу года пары, якія "ажаніліся", маюць некаторыя абавязкі адно перад адным. Хлопцы абавязаны праводзіць "сваіх бабулек" пасля танцаў дахаты, быць да іх уважлівымі. Здараецца, што пары, якія склаліся на "Жаніцьбе Цярэшкі", пасля па-сапраўднаму браліся шлюбам.*

# #выбарALOVAK

*Рэдакцыя часопіса дзеліцца з вамі чарговымі вырабамі ручной працы і таварамі, якія дапамагаюць у творчасці і рукадзеллі.*

Дарагія чытачы, вы можаце паўплываць на наш выбар – адзначайце фатаграфіі са сваімі вырабамі хэштэгам #выбарALOVAK, давайце ствараць рубрыку разам!

Настасся (ACANOS) прапануе запасціся нажніцамі і добрым настроем, і праз некалькі хвілін **папяровая лялька** ажыве!



Мілыя **драўляныя дамкі** ў скандынаўскім стылі ад Ганны Барашкавай стануць стыльным акцэнтам у любым інтэр'еры.







Арыгінальная **керамічная талерка** ад Teklja-кераміка не пакіне вас абыякавымі.

**Вігвам** ад SAMI – невычэрпная крыніца дзіцячай радасці!

Утульны **ляжак** ад Petstar – цёплае месцейка для любімага гадаванца.



Выдатная ўпакоўка для вашага вырабу – **скрынка** ад Ipapera.



Пяшчотны і мяккі **швэдар** ад Merino Wool сагрэе ў марозную зіму.





Марыце пра мора? **Пенал/касметычка** ад Woodbook.



Мяккае таямнічае святло вылучае арыгінальная **свяцільня** ад майстэрні “Руды кот”.



Загадкавае **калье** з серыі BurningHeart ад Glasstrunk – цудоўны падарунак для творчай асобы.

*У асеннім нумары мы даведаліся пра ўнікальную гандлёвую прапанову (УГП) і як яе развіваць для эфектыўнага дасягнення бізнес-мэтаў. У гэтым нумары мы зоймемся аналізам УГП і дапаможам канчаткова сфарміраваць вашую прапанову.*

Ужо зусім хутка лютаўскія і сакавіцкія святы, і мы так шмат чаго мусім паспець. Пачнем жа!

Як вядома, попыт і прапанова працуюць у звязцы, і добра, калі яны сябруюць. Сітуацыя, калі попыт перавышае вашую прапанову, азначае, што вы малайчына: цудоўна папрацавалі з УГП і зараз можаце адрэгуляваць кошт на вашую карысць.

А калі ваш попыт і прапанова яшчэ знаходзяцца не ў тых суадносінах, да якіх вы імкнецеся, прапануем прадумаць некалькі момантаў, якія дапамогуць гэты баланс усталяваць.

Ніжэй мы склалі спіс найбольш частых пытанняў, якія звязаныя з попытам і якія ўзнікаюць у пакупніка пры прыняцці рашэння нешта набыць:




- **Што гэта?**
- **Як гэта працуе?**
- **Нашто мне гэта патрэбна?**
- **Колькі гэта каштуе?**
- **Як хутка я змагу гэта атрымаць?**
- **Якія ёсць спосабы дастаўкі?**
- **Што, калі я захачу гэта вярнуць?**
- **Якім чынам я магу гэта аплаціць?**

Такім чынам, тавар, а таксама сукупнасць адказаў на гэтыя пытанні, прадстаўленая на вашым стэндзе, у вашай інтэрнэт-краме, на вашай старонцы ў сацыяльных сетках, называюцца прапановай.

Запомніце, каб зацікавіць пакупнікоў, вашая прапанова мусіць быць максімальна зразумелай і па магчымасці ўтрымліваць у сабе адказы на ўсе пералічаныя вышэй пытанні.

## ПАРАДА 1

**Не распыляйцеся.** Гэта цудоўна, што вы ўмееце і карціны пісаць, і вязаць, і крыжыкам вышываць. Але для таго, каб вас запомнілі, істотна абраць адзін асноўны напрамак, праз які вы сябе будзеце пазіцыяніраваць, а астатняе – пасунуць на другасны план. Вызначцеся, што вам падабаецца болей, і дзейнічайце! Нам жа вядома, як творчым людзям цяжка выбраць нейкі адзін творчы кірунак!

Дапусцім, вы вызначыліся, што вашае ключавое ўменне – выраб упрыгожанняў са скуры. Сканцэнтруйцеся на гэтым, развівайце ваш непаўторны стыль, эксперыментуйце з тэхнікамі, колерам, формай – стварыце цэлую калекцыю аксэсуараў!

## ПАРАДА 2

**Адкіньце сарамлівасць.** Распавядзіце пра вашую УГП на старонцы вашай інтэрнэт-крамы, акаўнтах у сацыяльных сетках.

Запытайце сябе:

• Чым мае вырабы вылучаюцца сярод аналагічных прац іншых майстроў?

• Што больш за ўсё шануюць мае пакупнікі? Што найчасцей гавораць пра мае працы?

• Што асаблівага ў тым, як я вырабляю свой прадукт? У спосабе апрацоўкі, у матэрыялах?

• Што асаблівага ў тым, дзе я іх вырабляю? Ці бачыў хто-небудзь маю майстэрню?

• У чым перавагі перад фабрычнымі вырабамі і вырабамі іншых майстроў?

• Што я раблю для таго, каб паказаць сваім патэнцыйным пакупнікам, наколькі цікавым, займальным і разам з тым няпростым з'яўляецца працэс вырабу?

Памятайце, што апроч вашых вырабаў, адказы на гэтыя пытанні таксама з'яўляюцца неад'емнай часткай вашай УГП, таму істотна, каб яны былі даступныя для ўсіх.




## ПАРАДА 3

**Будзьце своечасовымі.** Пастаўце сабе дэдлайн, да якога вашая прапанова мусіць быць поўнасцю гатовая, а таксама пазначце прамежкавыя крокі на шляху да яго. Напрыклад, вы вырашылі стварыць калекцыю паштовак, прысвечаных да 8 Сакавіка. Гэта значыць, што ўжо ў сярэдзіне лютага вашая УГП сфармулявана і праца па падрыхтоўцы і анансаванні вашых вырабаў ужо бурліць.

## ПАРАДА 4

**Вызначцеся з коштавай палітыкай.** Неістотна, у якім коштавым сегменце вы працуеце, граматна вызначаны кошт – адзін з галоўных рухавікоў попыту. Некаторыя майстры схільны заніжаць кошт сваіх вырабаў, разлічваючы на колькасны рост продажаў. Перш чым гэта рабіць, неабходна дасканала пралічыць, ці акупяцца ўкладзеныя намаганні, ці ёсць сэнс прадаваць выраб практычна па сабекошце? Больш высокі кошт з аднаго боку задае больш высокую планку для вас як майстра, з другога боку, ставіць вас у адзін шэраг з больш прафесійнымі майстрамі. Наша парада – працуйце адразу ў некалькіх коштавых сегментах, эксперыментуючы з рознымі відамі матэрыялаў і цяжкасцю працы.

## ПАРАДА 5

Не забывайцеся пра конкурсы, розыгрышы і "цукеркі". Што можа быць лепш за конкурс напярэдадні святаў? Добрапрадуманы праведзены конкурс падагрэе цікаўнасць да вашых вырабаў, пашырыць аўдыторыю і павысіць лаяльнасць кліентаў.

*Жадаем вам плённай падрыхтоўкі да надыходзячых святаў, і няхай на вашу прапанову заўсёды будзе выдатны попыт!*

26-28 февраля

Минск, Я.Купалы, 27




# Выставка Млын

Сувениры и подарки

Дизайнерские Украшения и Одежда

Предметы интерьера

Авторская кукла

Товары для Хобби и творчества

Более 500 мастеров!

ООО «Экcполист», УНП 191012898





Стоимость билета: 30.000 рублей

# РАБОТНІКІ БЫВАЮЦЬ творчымі

тэкст: Кацярына Буто, ілюстрацыі: Ірына Бельская

*У ALOVAK # 3 мы закранулі тэму «падатку на дармаедства» і выпадкаў, калі ён можа не выплачвацца людзьмі творчых прафесій. Сярод такіх «шчасліўчыкаў» – так званыя творчыя работнікі. Хто ж гэта такія і як імі становяцца – пра гэта паговорым у гэты раз.*



*Нагадаем, што творчыя работнікі на перыяд ажыццяўлення творчай дзейнасці прызнаюцца ўдзельнікамі ў фінансаванні дзяржаўных расходаў, а гэта значыць, не выплачваюць адпаведны збор, больш вядомы ў краіне як “падатак на дармаедства”. Пра тое, як пацвярджаецца статус творчага работніка, чытайце далей.*

## ХТО ТАКІЯ ТВОРЧЫЯ РАБОТНІКІ?

Заканадаўствам[1] вызначана, што імі з’яўляюцца фізічныя асобы, якія займаюцца творчай дзейнасцю ў галіне культуры, мастацтва і іншай культурнай творчай дзейнасці. Адметнасцю культурнай дзейнасці з’яўляецца тое, што яна завяршаецца з’яўленнем новага, не існаваўшага раней самастойнага выніку.

Творчыя работнікі могуць як працаваць на аснове працоўнага ці грамадзянска-прававога дагавора, так і не працаваць увогуле.

**Звярніце ўвагу:** *культурная творчая дзейнасць не з’яўляецца прадпрымальніцкай дзейнасцю, за выключэннем выпадкаў, калі яна накіравана на сістэматычнае атрыманне прыбытку.*

Ці можа чалавек, які працуе, скажам, у дызайн-студыі, ці малюе партрэты на замову ў якасці фрылансера, лічыць сябе творчым работнікам? Давайце разбірацца.

**Творчых работнікаў умоўна можна падзяліць на дзве групы:**

**1.** Сябры (удзельнікі) творчых саюзаў;

**2.** Творчыя работнікі, якія не знаходзяцца ў творчым саюзе.

Разгледзім больш падрабязна гэтыя дзве групы творчых работнікаў.

## ТВОРЧЫЯ РАБОТНІКІ – СЯБРЫ ТВОРЧАГА САЮЗА

Статус сябры творчага саюза пацвярджаецца непасрэдна самім творчым саюзам у адпаведнасці з яго статутнымі дакументамі. Сярод творчых саюзаў нашай краіны: Беларускі саюз мастакоў (БСМ), Беларускі саюз дызайнераў, Беларускі саюз архітэктараў, Беларускі саюз майстроў народнай творчасці і інш.

Варта памятаць пра тое, што ва ўсіх без выключэння творчых саюзах існуюць умовы і парадак прыёму, што адлюстроўваецца ў адпаведных статутах. Так, згодна са Статутам БСМ, прыём у яго сябры праводзіцца па асабістай заяве ўступаючага у адпаведнасці з Палажэннем аб прыёме ў БСМ. Да прыкладу, адной з умоваў прыёму з’яўляецца прадстаўленне *“дакументальна пацверджанага спісу выстаў (не менш за дзесяць рэспубліканскіх выстаў), аб’ектаў, публікацый, выданняў і інш., фотаздымкаў работ з указаннем каталогавых дадзеных, спісу асноўных работ, рэкамендацый не менш трох членаў ГА “БСМ” (стаж не менш за 5 гадоў)”.*

Статут БСМ – belartunion.by/home/statut.html

Палажэнне аб прыёме ў БСМ – belartunion.by/home/palazhenni/171-polozhenie-o-vstuplenii-v-chleny.html

## ТВОРЧЫЯ РАБОТНІКІ, ЯКІЯ НЕ ЗНАХОДЗЯЦЦА Ў ТВОРЧЫМ САЮЗЕ

Статус такога работніка пацвярджаецца прафесійным сертыфікатам, які выдаецца спецыяльнай экспертнай камісіяй на падставе вынікаў прафесійнай творчай дзейнасці. Камісія ствараецца пры Міністэрстве культуры і фарміруецца ў складзе прадстаўнікоў міністэрстваў культуры і інфармацыі, кіраўнікоў амаль усіх творчых саюзаў Беларусі і інш.

Падставай для разгляду пытання аб выдачы сертыфіката з'яўляецца заява зацікаўленай асобы. Да заявы прыкладаюцца ўстаноўленыя[2] матэрыялы, якія пацвярджаюць вынікі творчай дзейнасці чалавека – творы мастацтва, выкананні, публікацыі і інш. Пры неабходнасці забяспечваецца доступ да вынікаў творчай дзейнасці (напрыклад, да твораў манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва).

Да разгляду заявы праводзіцца экспертыза матэрыялаў, па выніках якой выдаецца экспертнае заключэнне. Заява і экспертнае заключэнне разглядаюцца на пасяджэнні камісіі, на якім можа прысутнічаць зацікаўленая асоба.

Важна ведаць крытэрыі ацэнкі вынікаў творчай дзейнасці, поўны пералік іх змяшчаецца ў заканадаўстве[3]. Сярод такіх крытэрыяў ёсць, напрыклад, такія:
- прафесійны мастацкі ўзровень вынікаў творчай дзейнасці;
- апублікаванне або іншыя спосабы, якія робяць вынікі творчай дзейнасці даступнымі публіцы (не менш за 2 разы ў год на працягу апошніх 3 гадоў);
- наяўнасць дзяржаўных узнагарод і іншых заахвочванняў за вынікі творчай дзейнасці на працягу апошніх трох гадоў.

Сертыфікат выдаецца на тэрмін 5 гадоў. Пасля заканчэння гэтага тэрміну выдаецца новы сертыфікат у такім самым парадку. Варта ведаць, што рашэнне камісіі можа быць абскарджана зацікаўленай асобай у суд ва ўстаноўленым парадку.



1. Закон РБ ад 16.12.1999 N 342-З "Аб творчых саюзах і творчых работніках"
2. п. 8.7 Пераліку адміністрацыйных працэдур, якія ажыццяўляюцца дзяржаўнымі органамі і іншымі арганізацыямі па заявах грамадзян, зацв. Указам Прэзідэнта РБ ад 26 красавіка 2010 г. N 200
3. Пастанова Савета Міністраў РБ ад 24.05.2000 N 747 "Аб зацвярджэнні Палажэння аб экспертнай камісіі па пацвярджэнні статусу творчага работніка"

*геаметрычны*

# ТЭСТ ВЫНІК

Такім чынам, малюнкі намаляваныя, прыметнікі падабраныя. Што ж нам намалявала падсвядомасць? Лічыцца, што кожны малюнак з прыметнікам паказвае ваша стаўленне да таго ці іншага аспекту жыцця.

1. Як вы бачыце сябе.
2. Як, на вашу думку, вас успрымаюць людзі вакол.
3. Што вы думаеце пра жыццё.
4. Што вы думаеце пра сваю духоўнасць.
5. Ваша стаўленне да сям'і.
6. Ваша стаўленне да кахання.

Калі вас не зусім задаволіла расшыфроўка малюнкаў, адлюструйце і апішыце свой ідэальны варыянт, і можаце лічыць, што запыт у сусвет адпраўлены! :)



# У ТВОРЧЫМ ПОШУКУ

*Падборка сайтаў: Таццяна Хлапкова*
*Тэкст: Вікторыя Анжэ*
*Фота: boxdoodle.com, donnawilson.com, spoonflower.com*

*ALOVAK дзеліцца з вамі новай порцыяй любімых спасылак на анлайн-рэсурсах.*



## boxdoodle.com

Калі вы не любіце развітвацца са старымі рэчамі і думка выкінуць кардонную скрыню з-пад нядаўна набытай лядоўні дастаўляе вам непрыемныя адчуванні, пры гэтым вы сентыментальныя і крэатыўныя, то вам тэрмінова трэба на гэты сайт! Творчыя вар'яты з усяго свету выразаюць, клеяць, размалёўваюць кардонныя скрыні, пераўтвараючы іх у цмокаў, кароў, снегавікоў і іншых ахвяраў фантазіі. Калі скрыні ў вас пакуль што няма, можна выкарыстаць інструмент "doodletool", пры дапамозе якога можна размаляваць скрыню віртуальна, зрабіць скрыншоты, раздрукаваць і скласці ў мудрагелістыя фігуры.



**donnawilson.com**

Шчыра запрашаем у свет фарбаў і прынтаў, дзе ў творчасці няма межаў! Аўтар прадстаўленых на сайце прадметаў – ад кніг і настольных гульняў да брошак, шалікаў і ўтульных падушак – Дона Уілсан. Адна з самых вядомых дызайнераў Вялікабрытаніі, Дона ўжо 12 гадоў як стварае мэблю, тэкстыль, адзенне ў сваёй студыі ў Лондане. Вынікі яе творчасці можна замовіць акурат на сайце – дастаўка ажыццяўляецца ў тым ліку і ў Беларусь.



**spoonflower.com**

Калі вы знаходзіцеся ў пошуку ідэальнай тканіны, упаковачнай паперы ці шпалераў – вам сюды! Прынцып просты: вы прыдумваеце прынт, запампоўваеце яго на сайт, абіраеце тып тавару, да якога б хацелі прымяніць прынт, і чакаеце, калі каманда сайта надрукуе і даставіць вам тавар. Аўтары праекта пакуль не ажыццяўляюць дастаўку ў Беларусь, затое вы можаце атрымаць камісійны збор, запампаваўшы на сайт свае прынты і прапанаваўшы іх іншым карыстальнікам.

# 100 ДРЭЎ

*У рубрыцы "100" мы малюем разам з чытачамі. Прычым, малюем адзін і той жа прадмет, але ў ста розных варыянтах. Гэта вельмі займальны і карысны занятак: ён развівае фантазію, удасканальвае навыкі ў маляванні. Акрамя гэтага дорыць салодкае пачуццё перамогі, калі заканчваеш маляваць апошнюю, сотую карцінку!*

Для новага нумара мы малявалі разам з нашымі чытачамі дрэвы, якіх нам даслалі больш за 700: рознакаляровых і манахромных, намаляваных алоўкам і акварэллю, фламастарамі і маркерамі... Мы ганарымся нашымі чытачамі і прапануем вам паглядзець на нашу падборку!

1, 2, 4, 5, 7, 8, 17, 57, 63, 77, 81, 83, 87, 93 – @koyukova_lyudmila; 3, 6, 12, 58, 62, 80, 94, 99 – Светлана Орлова; 9, 16, 78, 79, 85, 98, 100 – Елена Шарлай; 10, 20, 88, 91, 95 – Светлана gala-ktika; 11, 89, 90, 97 – @irininskaya; 13, 14 – Янченкова Елена; 15, 21, 22, 30-34, 46-49, 64, 65, 96 – Волька; 18, 19, 35-39, 41- 45, 50-53, 55, 56 і вожыкі – @natalya.raev;



## ЯК ПРЫНЯЦЬ УДЗЕЛ У СТВАРЭННІ РУБРЫКІ "100"?

1. Тэма наступнага нумара: **КВЕТКІ**

2. Малюйце 100 любых кветак – у любой тэхніцы, з дапамогай любых матэрыялаў. Мы вітаем свабоду творчасці.

3. Калі вы намалюеце менш за 100 кветак – вы ўсё роўна можаце прыняць удзел у стварэнні рубрыкі.

4. Фатаграфуйце ці скануйце свае вынікі і дасылайце на e-mail alovakmag@gmail.com з паметкай "100 кветак". Альбо публікуйце іх на нашых старонках у Facebook і Вконтакте ці ў сваім профіле ў Instagram (хэштэг #100кветакдляALOVAK).

5. З усіх дасланых малюнкаў мы абяром 100 самых цікавых, якія і трапяць у рубрыку.

## ЖАДАЕМ ВАМ НАТХНЕННЯ!

23-29; 59-60, 67-76 – @kunitskayaanna; 40, 54 – @irinabeldesign; 61 – Варвара Дядюль; 66, 84, 86 – @katsibou; 82 – @ollga_ru; 92 – @kikitushka.



Мы зноў прапануем вам тварыць разам з намі і па ўжо сталай традыцыі паўдзельнічаць у конкурсе.
Наш аўтар Марыя СОНГАЛЬ зрабіла здымак зімовага Мінска і апісала яго для ALOVAK:



*"Мароз цалуе шчокі, а сонца робіць шчаслівымі вочы. Ляцім з горкі! Лепшыя ўспаміны дзяцінства ў гэтым здымку: жыццё цудоўнае і іскрыцца як снег у яркіх сонечных промнях. Белая прастора зімы, змёрзлая рака, яркія кантрасты калон і купалы альтанкі ля цёмна-шэрага прычала на набярэжнай Свіслачы, жоўта-карычневыя і бардовыя галінкі дрэў, што заснулі да вясны, і маляўнічыя фігуркі дзяцей на санках. Радасныя імгненні зімовых дзён! Мы зноў там!"*

фота: Марыя Сонгаль

Спецыяльна для нашага часопіса мастачка Дар'я Уласава намалявала карціну па матывах фотаздымка. Як бачыце гэты гарадскі сюжэт вы? Намалюйце яго так, як адчуваеце, як умееце: у любой тэхніцы, з дапамогай любых матэрыялаў, галоўнае, каб ваш малюнак стаў уражаннем ад прадстаўленай фатаграфіі.



## ДАСЫЛАЙЦЕ

адсканаваныя ці знятыя вынікі вашай творчасці да нас у рэдакцыю на электронную пошту: **alovakmag@gmail.com** з паметкай "Зімовы пейзаж" або публікуйце іх на нашых старонках у **Facebook** і **Вконтакте**, там жа вы знойдзеце падрабязную інфармацыю пра правілы правядзення конкурсу і падарункі.

**Натхнення і ўдачы!**

Хізэр Дарсі Бхандары. Джонатан Мельбер

# ART/WORK
# Як стаць паспяховым мастаком




## Аўтары кнігі

***Хізэр Дарсі Бхандары*** *– паспяховы галерыст, дырэктар па сувязях з мастакамі нью-ёркскай галерэі Mixed Greens. За сваю кар'еру яна курыравала каля 70 выставаў, у якіх прынялі ўдзел больш за 20 аўтараў.*

***Джонатан Мельбер*** *– юрыст у галіне мастацтва, прадстаўляе інтарэсы сучасных мастакоў.*

*Як абсталяваць майстэрню і арганізаваць уласную выставу? Як вызначыць кошт сваіх прац і пабудаваць адносіны з галерэямі? Ці патрэбны мастаку ўласны сайт, удзел у грантах? Без якіх дакументаў не абыходзіцца аніводная здзелка?*

*Адказам на гэтыя і многія іншыя пытанні прысвечаны асобныя главы з каментарамі спецыялістаў, што маюць непасрэднае дачыненне да свету мастацтва.*

*У працэсе працы над кнігай аўтары апыталі больш за 100 чалавек: мастакоў і галерыстаў, супрацоўнікаў транспартных кампаній і незалежных куратараў, юрыстаў і арганізатараў рэзідэнцкіх праграмаў. Вынікам супрацоўніцтва і стала гэтае практычнае выданне.*

Рэцэнзія Кацярыны Чарняўскай

# Жыццё ў мастацтве

*Ёсць кнігі, якія прыносяць радасць, іншыя напаўняюць смуткам, роздумам і жаданнем паспрачацца з аўтарам. А ёсць тыя, якія натхняюць і заклікаюць да дзеянняў. У гэтым месяцы мы падрыхтавалі падборку кніг пра мастакоў і свет мастацтва, якія абавязкова натхняць вас на творчыя подзвігі!*




Тэкст: Кацярына Чарняўская
Ілюстрацыя: Яна Бунцэвіч

## Донна Тарт “Шчыгол”

(пераклад з англійскай мовы на рускую “Щегол”, А.Завозава)

Адна з самых каментаваных і папулярных кніг, за якую яе аўтар атрымала ў 2014 годзе Пулітцараўскую прэмію.
14-гадовы Тэа Дэкер, які неверагодным чынам выжывае падчас выбуху ў музеі, становіцца ўладальнікам рэдкага шэдэўра – карціны галандскага майстра Карла Фабрыцыюса. Герой нават не здагадваецца, што скрадзеная ім карціна прывядзе яго і ў абсталяваную старадаўняй мэбляй майстэрню антыкварнага магазіна, і ў дом да незаконных гандляроў карцінамі, і ў прасякнуты ледзянымі скразнякамі калядны Амстэрдам.
Якая роля мастацтва ў жыцці кожнага з нас? І ці зможа яно стаць тым праменем, які асвятліць шлях да выратавання? Спрэчная, неадназначная, часам жахлівая кніга. Яе крытыкуюць, ёй захапляюцца, але бясспрэчна адно – яна наўрад ці пакіне вас абыякавымі.

## Дына Рубіна “Белая галубка Кардовы”

(арыінал на рускай мове “Белая голубка Кордовы”)

Галоўны герой Захар Кардовін – таленавіты мастак, аўтарытэтны эксперт жывапісу і… віртуозны махляр. Ён чытае лекцыі па мастацтве, кансультуе калекцыянераў і выкшталцона падроблівае карціны.
Арт-дэтэктыў “Белая галубка Кардовы” поруч з “Сіндромам Пятрушкі” і “Почыркам Леанарда” ўваходзіць у трылогію Дыны Рубінай пра людзей мастацтва. Гэтая кніга, як складанае палатно, прасякнута сямейнымі таямніцамі, рытмамі фламенка і гарачым сонцам Гішпаніі.

## Філіп Хук “Сняданак у Sotheby’s. Свет мастацтва ад А да Я”

(пераклад з англійскай мовы на рускую “Завтрак у Sotheby’s. Мир искусства от А до Я”, В.Ахтырская)

Філіп Хук працаваў на вядучых сусветных аўкцыёнах Christie’s і Sotheby’s, праводзіў ток-шоў пра мастацтва і напісаў займальную кнігу, у якой шчыра распавядае, чаму адны мастакі прадаюцца лепш за іншых, як ствараюцца сучасныя шэдэўры і якімі таямніцамі валодаюць арт-дылеры і галерысты.
Вельмі “смачная” кніга, якая будзе цікавай закаханым у мастацтва, арт-крытыкам і будучым калекцыянерам.

## Алена Мілюгіна “Шэдэўры Ван Гога”

(арыгінал на рускай мове “Шедевры Ван Гога”)

На старонках гэтага альбому аўтар знаёміць чытача з біяграфіяй, асноўнымі этапамі творчасці Ван Гога і прапаноўвае прасачыць станаўленне яго ўнікальнай мастацкай манеры. Карціны, якія не атрымалі прызнання пры жыцці мастака, уваходзяць сёння ў дзясятку самых дарагіх і прадаваемых у свеце.
У альбоме прадстаўлены такія вядомыя палотны, як “Едакі бульбы”, “Аўтапартрэт”, “Ваза з пятнаццаццю сланечнікамі” – творы, якія сталі шэдэўрамі постімпрэсіянізму. Такое выданне прынясе радасць сапраўдным аматарам мастацтва і стане цудоўным падарункам.

# КІНУСАЙГА

Тэкст, ілюстрацыі: Ірына Бельская
Фота: Кацярына Буто

*Гэтым разам мы зноў звернемся да японскай спадчыны і вывучым новы для нас і традыцыйны для краіны ўзыходзячага сонца від рукадзелля. Пагаворым пра кінусайга і абавязкова зробім што-небудзь цікавае ў гэтай тэхніцы.*

**Дык што ж такое кінусайга?** Знешне гэтая тэхніка вельмі нагадвае пэчворк, але пры гэтым з шыццём не мае анічога агульнага: вам не спатрэбяцца ані швейная машынка, ані іголка, ані ніткі.

Як і ўжо вядомыя нам віды рукадзелля (сашыка, бора), кінусайга ўзнікла перш за ўсё з-за жадання захаваць ці даць другое жыццё дарагім тканінам старога кімано. Калі кімано нельга было адрэстаўрыраваць, выкарыстоўвалі яго кавалачкі, так з'явіліся карціны кінусайга.

Традыцыйна кінусайга стваралася так: на паперы маляваўся эскіз будучай карціны, пасля чаго ён пераносіўся на драўляную дошчачку. Усе лініі малюнка праразаліся на 2 мм углыб дошкі ў форме канаўкі, у якія пасля замацоўвалася нацягнутая тканіна. Гэта была вельмі карпатлівая праца. У наш час працэс стварэння карцін кінусайга значна спрасціўся і дасягальны нават для дзіцяці, бо замест дошчачкі сталі выкарыстоўваць пенапласт. Давайце разам "патрэніруемся на котках".



## Для карціны “Кот” нам спатрэбяцца:

- пенапласт (не меней за 1 см таўшчынёю);
- разнастайныя кавалачкі тканіны;
- нажніцы;
- макетны нож;
- пілачка для пазногцяў альбо масціхін, каб запраўляць тканіну;
- капіравальная папера;
- аловак;
- малюнак.

Малюнак ката і іншыя цікавыя эскізы, створаныя намі для работы ў тэхніцы кінусайга, вы можаце спампаваць у раздзеле “Карыснае” на сайце alovakmag.by.

# 1.

Раздрукоўваем ці ствараем малюнак на паперы. Пераносім яго на кавалачак пенапласту, для гэтага можна выкарыстаць капіравальную паперу.

**Заўвага:** аркуш пенапласту можна набыць у будаўнічым магазіне (пенапласт выкарыстоўваюць для ўцяплення памяшканняў).

# 2.

Пасля пераносу малюнка на пенапласт неабходна прайсціся па контурах выявы макетным нажом, прарэзаўшы іх на глыбіню 3-5 мм.

**Парада:** Мы прапаноўваем раздрукаваць два аркушы малюнка: адзін для ўзору, на якім вы можаце прадумаць колеравыя спалучэнні, размаляваўшы элементы каляровымі алоўкамі, суадноснымі з колерамі тканіны. Другі аркуш з малюнкам разрэжце на элементы-складнікі. Для зручнасці кожнаму элементу мы надалі нумар. Разрэзаныя часткі, суадносна з прадуманым эскізам, прыкладваем да тканіны патрэбнай афарбоўкі і выразаем элемент з прыпускам на загіб 3-5 мм.



# 3.

Пры дапамозе пілачкі для пазногцяў, масціхіна ці іншага падыходзячага інструмента акуратна запраўляем кавалачкі тканіны ў прарэзы пенапласту.

**Парада:** Мы не рэкамендуем выразаць з тканіны адразу ўсе элементы, каб не заблытацца ў кавалачках. Лепш гэта рабіць паступова: бяром элемент-шаблон, прыкладваем да тканіны і выразаем з прыпускам, запраўляем на сваё месца ў пенапласт. Бяром наступны элемент-шаблон...

**Парада:** Краі пенапласту вы можаце задэкарыраваць стужкай, тасьмою альбо працягнуць і рабіць надрэзы і запраўляць у іх тканіну. Працу можна працягнуць і на адваротным баку, тады ў вас атрымаецца зусім завершаны двухбаковы выраб.

Заварожваюць прыгажосцю працы з вялікай колькасцю частак. Але варта адзначыць, што з дробнымі дэталямі працаваць нашмат цяжэй.

У тэхніцы кінусайга вы можаце зрабіць карціну на сцяну, падстаўку пад гарачае, альтэрнатыву коракавай дошцы для занатовак і ўспамінаў і шмат чаго іншага. А калі вы возьмеце аб'ёмныя пенапластавыя нарыхтоўкі (яйка, сардэчкі, шары), то ў вас могуць атрымацца цікавыя цацкі ці прадметы інтэр'еру.

***Няма сумненняў, як і нам, так і вам будзе да сэрца гэтая цудоўная тэхніка, і вы створыце пры яе дапамозе сапраўдныя шэдэўры!***



*Многія мінчане з дзяцінства знаёмыя з Палацам моладзі, пазнавальны будынак якога стаіць ля Камсамольскага возера на Старавіленскім тракце. Мала хто ведае, але ў гэтай установе ёсць чым заняцца і дарослым. Напрыклад, засвоіць тэхналогію лепкі з гліны і авалодаць асновамі ганчарнага мастацтва. Мы паразмаўлялі з кіраўніком гуртка "Кераміка і ганчарная справа", мастачкай Людмілай ЗАВАДЗКАЙ, якую за прафесійнасць і неверагодную чуйнасць любяць і дарослыя, і дзеці.*

*Тэкст: Марыя Маразевіч*
*Фота: Таня Капітонава, Марыя Сонгаль*

**- Калі вы ўпершыню пазнаёміліся з керамікай?**

Усё жыццё я займалася жывапісам, а керамікай зацікавілася ў 13-14 гадоў, калі вучылася ў мастацкай школе. У той час я ўспрымала яе хутчэй як скульптуру, як аб'ёмную форму. Ужо пазней я пазнаёмілася з глазурай, з роспісам па кераміцы, зразумела, якую істотную ролю ў стварэнні мастацкага вобраза адыгрывае спалучэнне пластыкі, формы і колеру.

Ганчарнае кола заварожвала і вабіла мяне заўсёды, але, на жаль, не пашанцавала сустрэць свайго настаўніка, які б усё распавёў і навучыў. Калі я прыйшла на працу ў Палац моладзі, у кабінеце керамікі было ганчарнае кола, якое стаяла без спраў. І я зразумела, што мне проста неабходна навучыцца "ганчарыць". Вучылася доўга і складана, рабіла вялікую колькасць памылак. Толькі дзякуючы вялікім намаганням, цярплівасці і трэніроўцы ў мяне атрымалася авалодаць гэтым рамяством. Ганчарнае кола я часта параўноўваю з музычным інструментам. Рэдка сустракаюцца музыкі, якія могуць умомант авалодаць, да прыкладу, піяніна ці скрыпкай, большасці даводзіцца добра папрацаваць. Вось так і з ганчарным колам.

**- Што незвычайнага ў гліне як у матэрыяле для творчасці?**

Па-першае, гліна – гэта жывы прыродны матэрыял. Гліну трэба не толькі разумець, але і вельмі добра адчуваць, жыць з ёй адным жыццём. Дзякуючы такой думцы і тваім рукам, з абясформленага кавалка ствараецца мастацкі вобраз. Гліна чымсьці нагадвае дзіця, але не ў тым сэнсе, што з дзяцей, як з гліны, можна нешта зляпіць. Хутчэй, гліну, як і дзяцей, трэба накіроўваць, паказваць арыенцір. Мне падаецца, што ў ёй ужо закладзены нейкі генетычны вобраз – ты проста дапамагаеш яму раскрыцца. Колькі гадоў працую, ніколі не спрабавала дзяцей і гліну падладзіць пад сябе, бо гэта жывыя арганізмы, з якімі прыемна працаваць, якія, дзякуючы тваім намаганням, пачынаюць "раскрывацца".

**- Што для вас значыць быць выкладчыкам?**

Я адношуся да тых асобаў, якія чэрпаюць інфармацыю і сілы ад тых людзей, якіх навучаюць. Не скажу, што выкладанне ў мяне ў крыві, хаця, колькі сябе памятаю, заўсёды збірала вакол сябе дзяцей меншага ўзросту і спрабавала іх вучыць. Часта напрыканцы працоўнага дня я адчуваю пустэчу ўнутры, але гэта як збан, які хочацца зноў напоўніць. Чым больш ты аддасі, тым больш потым у выніку атрымаеш.

**- Як вы пачалі працаваць у Палацы моладзі?**

Гэта стала неабходнасцю! Я вадзіла дачку сюды ў гурткі, у перапынках чакала яе ў калідорах. Аднойчы зайшла ў кабінет керамікі, дзе працавалі цудоўныя педагогі, правяла там некалькі гадзін і зразумела, што менавіта тут, у гэтым кабінеце, я хачу працаваць. Дачка вырасла, а я дагэтуль працую. Ужо 16 гадоў. Што мне падабаецца ў маёй

працы – кожны раз можна пра нешта даведацца і паказаць гурткоўцам, кожны раз знаходзіць новыя тэмы.

*- Як адбываюцца заняткі ў гуртку “Кераміка і ганчарная справа”? Хто вашыя вучні?*

Навучанне праходзіць па праграме, пачынаючы з самага элементарнага. Калі зададзеная тэма чалавека цікавіць, ён працуе ра-зам з групай, калі ў яго іншыя мэты – робіць свой выраб. Практыка – самае істотнае ў працы з керамікай, але я навучаю не толькі практычным навыкам. Мне хочацца, каб мае вучні больш атрымлівалі і тэарэтычнай інфармацыі. Я рыхтую прэзентацыі і расказваю пра гісторыю керамікі, ганчарнае мастацтва, пра знакамітых майстроў-керамістаў, пра тое, як ствараліся шэдэўры, пра беларускія керамічныя традыцыі.



*выкладчык Людміла ЗАВАДЗКАЯ*

У гуртку займаюцца вельмі розныя людзі і па сферы дзейнасці, і па ўзросце. Радуе, што прыходзіць шмат моладзі – зацікаўленай, творчай, якая не баіцца бруднай працы, бо праца з глінай гэта прадугледжвае. Часам даводзіцца досыць вялікі час правесці за ганчарным станком, каб у рэшце рэшт дасягнуць таго выніку, які табе спадабаецца. Тым не менш, людзі мэтанакіравана прыходзяць і атрымліваюць ад гэтага працэсу неверагоднае задавальненне. Самае прыемнае, калі адчуваеш, што людзі сыходзяць задаволеныя і не думаюць пра стомленасць. Калі да мяне прыходзяць новыя вучні, вельмі цікава за імі назіраць: некаторыя яшчэ не ўсведамляюць, для чаго ўвогуле сюды прыйшлі, па іншых адразу бачна, што яны ўсё жыццё пра гэта несвядома марылі і нарэшце знайшлі “свой” занятак. Часам прыходзяць людзі вельмі творчыя, зацікаўленыя, якія шмат у чым ужо сябе паспрабавалі, і гліна ім дапамагае яшчэ больш раскрыцца. Бывае так, што хобі перарастае ў моцную зацікаўленасць, якая дае такім людзям новы творчы штуршок і магчымасць адчуць, пераасэнсаваць сваё жыццё. Асабліва каштоўна, калі чалавек можа выявіць сябе праз пластыку, далёка не ў кожнага ў дзяцінстве была магчымасць паляпіць.

*- Пра што вы марыце?*

Апошнія некалькі гадоў у мяне ёсць мара набыць ганчарны станок, велізарную печ і з’ехаць на хутар, “круціць” ад ранку да вечара. Час ляціць так хутка, дзеці-навучэнцы, якія яшчэ нядаўна вучыліся трымаць аловак, ужо сканчваюць інстытут... а ты ўсё вучыш і вучыш. І пачынаеш думаць, што вучні ўжо і малююць, і працуюць за ганчарным колам лепш за мяне. Таму вельмі хацелася б мець больш часу для ўласнай творчасці.

## ШТО СПАТРЭБІЦЦА
## на гуртку па кераміцы?

• інструменты – *можна набыць у магазіне, а можна вырабіць самастойна. Шмат рэчаў, якія спатрэбяцца ў працы з керамікай, можна знайсці ў побыце: лёска, карункавыя анучкі, прыгожыя гузікі, "фактуркі" і інш.;*

• працоўнае адзенне (халат ці фартух);

• цырата (засцяліць стол);

• анучкі і пакеты (загортваць выраб, каб трымаць яго ў вільготным стане);

• жаданне і ўпэўненасць, што ў цябе ўсё атрымаецца.



***- Што вас натхняе?***

Працуючы тут, немагчыма, па-першае, састарыцца, па-другое, стаміцца. Так, стамляешся фізічна, але ў душы стаміцца немагчыма. Неістотна, з якой нагі ты ўстаў, якое надвор’е на вуліцы, – я, як тая лямпачка, якая загараецца, заўсёды мушу быць у выдатным настроі, пакідаю свае праблемы дзесьці далёка і нясу людзям свята, каб ім гэта спадабалася і запомнілася. Напрыканцы заняткаў стамляешся, але, калі бачыш, што вынік ёсць – вось гэта, напэўна, і натхняе. Стараюся вучыць душэўна і ласкава, абыходзячы ўсе вострыя вуглы, каб было камфортна наведвальнікам гуртка і мне.

І, вядома, мяне натхняе мая сям’я, якая мяне падтрымлівае, нягледзячы на тое, што мяне рэдка бачыць. Усё гэта пастаянна падсілкоўвае і лечыць ад любой стомленасці, ад хандры, ад любой хворасці.

**ЦІКАВЫЯ ФАКТЫ**

* Стваральнікі і многія аўтары часопіса ALOVAK пазнаёміліся падчас заняткаў гуртка “Кераміка і ганчарная справа”.

* Лепка з гліны – гэта і масаж для рук, і арт-тэрапія! Выдатны спосаб для прафілактыкі стрэсаў і дэпрэсіі.

* Гліну (у асноўным, блакітную і белую) ужываюць у медыцыне і касметалогіі, а ў некаторых культурах – у якасці ежы.

* Па формуле, заснаванай на сярэдняй частаце пульса, мы палічылі, што пры інтэнсіўным вымешванні гліны і працы за ганчарным крузе можна страціць прыблізна 315 ккал у гадзіну.

**Карыснае:**

Заняткі ў гуртку “Кераміка і ганчарная справа” праходзяць па адрасе:

г. Мінск, Старавіленскі тракт, д.41, каб.104.

Па серадах з 18:00 да 20:45.

# UN DEUX TROIS

*У кожным нумары ALOVAK дзеліцца сваімі простымі ідэямі, якія паляпшаюць жыццё.*
*Што мы разумеем пад такімі ідэямі? Ды ўсё што заўгодна! Абы гэта:*
*• давала магчымасць парадаваць сябе і тых, хто побач;*
*• прымушала забывацца пра клопаты і праблемы хоць на хвіліну;*
*• выклікала ўсмешку.*

*Тэкст: Ірына Бельская, Настасся Цішкавец*
*Фота: Кацярына Бута*

## Простая ідэя
## НУМАР АДЗІН ▶

Хочаце знайсці новы стымул у маляванні, каб хацелася маляваць часта і шмат? Размясціце ў сябе на стале альбом на спружынах фармату А3. Паверце, вы і самі не заўважыце, як старонкі запоўняцца ілюстрацыямі, карцінкамі, эксперыментамі.
Сыходзячы з практыкі, фармат альбома А3 на спружыне найбольш зручны – можна з лёгкасцю перагортваць старонкі, не вырываючы і не заламваючы іх, а памер дазваляе зручна размеркавацца зверху: кладзіце рукі, стаўце кубачак, крышыце пячэнне – зараз гэта ваш працоўны стол з функцыяй перагортвання. І не хавайце далёка алоўкі, асадкі і фламастары!

## Простая ідэя
## НУМАР ДВА ▶

Сумуеце па яркім, зялёным лісці на дрэвах? Узімку так не хапае зеляніны... Але зусім неабавязкова чакаць цяпла і вясны, каб убачыць першыя нясмелыя лісткі. Можна зрэзаць на вуліцы зімовыя галінкі, а лепш падабраць зламаныя, паставіць іх у гарачую ваду і накрыць на першы час цэлафанавым пакетам. У цяпле вашага дома лісткі пачнуць раскрывацца. Вы зможаце ўбачыць нараджэнне сапраўднага цуда – новага жыцця! А калі паставіць такі букет з галінак у спальны пакой, то кожную раніцу вы будзеце прачынацца з сапраўдным вясеннім настроем!

## Простая ідэя
## НУМАР ТРЫ▶

Падняць настрой вельмі лёгка: вы можаце ўпрыгожыць цішотку малюнкамі пры дапамозе тэкстыльных маркераў, а калі на адзенні вашага дзіцёнка з'явілася плямка, якую немагчыма адмыць, гэта яшчэ і выдатны спосаб замаскіраваць яе. Намалюйце на цішотцы пацешны ўзор, смайлік ці напішыце матывавальную цытату.
Размалёўваць адзенне – гэта вельмі забаўляльны працэс. Паклічце дзяцей і стварайце разам!

# ШТО ВАС НАТХНЯЕ?

Гэтае пытанне мы задалі героям, аўтарам часопіса і тым, хто ўдзельнічаў у яго стварэнні. Глядзіце, якія разнастайныя адказы мы атрымалі!

**Яна Яфрэмава, фатограф:**
Шчасце і натхненне вакол нас. Паўсюль! У абдымках родных і ўсмешцы выпадковага мінака. У духмянай ранішняй гарбаце і любімай працы. Дастаткова проста паглядзець на свет шырэй і не сядзець на месцы, бо натхненне не любіць лянівых.

**Таццяна Ціхамірава, фатограф:**

Натхняюць людзі, іх вопыт, жыццярадаснасць, мэтанакіраванасць і святло, якое яны нясуць у гэты свет. Натхняе прырода і паравіны году. Кожны новы сезон – асаблівы па прыгажосці, пахах, малюнках, падарунках. Прырода дае мне вельмі шмат энергіі і сіл. І, мабыць, самае моцнае натхненне я чэрпаю з музыкі. Мне падабаецца тое, як яна пранікае ў маё цела і свядомасць праз слых, якія яна нараджае вобразы і ідэі. Музыка здольная падарыць неверагодны спектр эмоцый і даць магчымасць пражываць розныя станы. Я ўдзячная Богу, што магу так ярка і пачуццёва чуць музыку і натхняцца ёю.

**Юля Прашковіч, аўтар:**
Мяне натхняе гарманічнае ўзаемадзеянне прыроды і чалавека. Я люблю паркі, квітнеючыя і залатыя ад каласоў палеткі, пясчаныя дарогі, драўляныя масткі. Словам, тыя месцы, дзе нябачна прысутнічае рука чалавека, але прырода застаецца сама сабой. Натхняюць прадметы даўніны: разьбяная мэбля, карункавыя ўборы, антыкварныя лялькі і мішкі, чорна-белыя фатаграфіі. Натхняюць творчыя людзі, блізкія па духу. Любая дробязь, убачаная пад новым вуглом, можа стаць крыніцай натхнення!

**Лілія Давыдоўская, ілюстратар:**
Мяне вельмі натхняе абмеркаванне актуальнай творчай задачы з людзьмі, з якімі знаходжуся на адной хвалі, калі ў працэсе атрымоўваю пэўныя адказы і зараджаюся новай порцыяй энтузіязму. А таксама натхняе назіранне за навакольным светам і, вядома, працы выбітных творцаў.

**Таццяна Гậрослер, перакладчык:**
На глабальныя справы мяне натхняюць жыццёвыя шляхі моцных духам людзей. На творчыя ж моманты можна натхніцца абсалютна выпадкова: напрыклад, убачыць прыгожы фотаздымак у часопісе альбо густоўна аформленую вітрыну ў магазіне.

**Яна Бадзяк, стыліст:**
Я магу натхніцца чым заўгодна і ў самы нечаканы момант. Аднойчы проста ішла па вуліцы пасля здымак і ў галаве раптам нарадзілася ідэя для новага праекта! Я сама не зразумела, адкуль яна ўзялася. Натхняюся дызайнам, фота, кіно, музыкай, зносінамі з людзьмі, кнігамі, прыродай, горадам, падарожжамі..., шмат чым. І мне здаецца, што кожны мой вобраз – гэта часцінка мяне. У кожнай фатаграфіі, дзесьці ў большай ступені, дзесьці ў меншай, ёсць я сама.

**Юлія Багданчык, аўтар:**
Сваімі ідэямі, ўчынкамі і шчырымі ўсмешкамі людзі натхняюць і зараджаюць мяне. Людзі могуць і лёгка засмучаць, злаваць і расчароўваць, але як жа яны ўсё ж такі ўмеюць натхняць!

**Кацярына Чарняўская, аўтар:**
Я натхняюся біяграфіямі вялікіх жанчын. Яны вучаць нават у няпростыя часы верыць у сябе, не баяцца цяжкасцяў і ўпарта працаваць дзеля сваёй мары.

**Ксенія Сасніна, аўтар:**
Мяне натхняе вельмі многае: навакольны свет, кнігі, фільмы, музыка... Яшчэ люблю чытаць часопісы, бо яны нярэдка захапляюць мяне цікавымі спосабамі падачы матэрыялу і крэатыўным афармленнем.



## ДА СУСТРЭЧЫ!

**наш сайт:**

alovakmag.by

**мы ў сацыяльных сетках:**

facebook.com/alovakmag

vk.com/alovakmag

**мы ў інстаграме:**

@alovakmag